● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

9 ліпеня 1996 г. аўторак, №№ 172 — 173 (22975 — 22976)






# ЗВЯЗДА

*«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»*

## РАБОЧЫМ ЗАСТАЕЦЦА АДНО — НАГАДВАЦЬ ПРА СЯБЕ САМІМ

Пазванілі з «Бабруйскаграмаша». Заканчваецца першая дэкада ліпеня. Заробак тут выплацілі толькі за май. І то не ўсім. Заробак атрымалі ў асноўных, так бы мовіць, цэхах. А што ж рабіць астатнім? Дапаможныя падраздзяленні (работнікі энергазабеспячэння, транспартнага, інструментальнага цэхаў) зарплату за май не атрымалі. Атрымліваецца, што і ў рамках аднаго прадпрыемства Бог не роўна дзеле?..

«Звязда» ўжо звяртала ўвагу на затрымкі па выплаце грошай за здадзеную людзьмі прадукцыю. Вось яшчэ адна інфармацыя падобнага роду. У лістападзе 1995 года Валянціна Сузько здала сваю карову ў калгас «Чырвоны сцяг» (а гэта — вёска Мялешкавічы Мазырскага раёна). Налічылі 3 мільёны 196 тысяч рублёў. Тады ж, зразумела, яшчэ ў леташнім лістападзе. А грошы так і засталіся на паперы. Не выплачваюць — і ўсё.

Есць званкі па няўвыплаце зарплаты і з мінскіх прадпрыемстваў. Не ўсюды становішча, падобнае таму, што было і што ёсць на «БелВАры». І ўсё ж... Затрымліваюць зарплату за май, не выплачваюць аванс за чэрвень (у прыватнасці, на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній...) На вопыту ведаючы, што ў бухгалтэрыях, аддзелах працы і заработнай платы спашлюцца на адсутнасць грошай, узгадаюць пра «картатэку», мы званілі са «Звязды» ў прафсаюзныя камітэты. Усё ж прафсаюз — сіла. І дзякуючы руплівасці дэпутатаў-прафсаюзнікаў зарплаце нададзены статус першачарговай выплаты. А што ж на месцах? На месцах прафсаюзы, аказваецца, больш лагодныя. У званы не звоняць, а ўслед за адміністрацыяй апраўдваюць сітуацыю, што, маўляў, на ўсё ёсць аб'ектыўныя прычыны.

Рабочым, работнікам застаецца самім нагадваць пра сябе і прыцягваць увагу да пытанняў прадпрыемстваў, установ, дзе ўжо «правілам добрага тону» становіцца не выплачваць зарплату своечасова, зацягваючы, затрымліваючы на месяц-два. **«Гарачы» тэлефон «Звязды» — 68-28-72.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ДЛЯ ЎДЗЕЛУ Ў САММІЦЕ

Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір адбыў 7 ліпеня ў г. Зальцбург (Аўстрыя) для ўдзелу ў эканамічным саміце краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Ён праводзіцца ў рамках Давоскага сусветнага эканамічнага форуму.

Як адзначаецца ў пісьме Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі на імя заснавальніка і прэзідэнта гэтага форуму прафесара Клаўса Шваба, наша рэспубліка высока цэніць намаганні Сусветнага эканамічнага форуму па падтрымцы імкнення краін гэтага рэгіёну да інтэграцыі ў еўрапейскую і сусветную эканоміку. Сустрэчы, што арганізоўваюцца форумам, садзейнічаюць вырашэнню многіх актуальных праблем, а таксама умацаванню канструктыўных дзелавых адносін на розных узроўнях.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка пажадаў паспяховага правядзення форуму ў Зальцбургу і выказаў надзею, што і ў будучым Сусветны эканамічны форум будзе адыгрываць такую ж важную ролю ў наладжванні дыялогу паміж рознымі краінамі, ва ўмацаванні еўрапейскай бяспекі, у далучэнні краін з пераходнай эканомікай да агульнаеўрапейскіх працэсаў.

У эканамічным самміце ў Зальцбургу прымуць удзел прэзідэнт Аўстрыі Томас Клейстыль і федэральны канцлер Франц Враніцкі, прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, прэзідэнты: Албаніі — Салі Берыша, Балгарыі — Жэлю Жэлеў, Румыніі — Іон Іліеску, Славакіі — Міхал Ковач, Славеніі — Мілан Кучан, прэм'ер-міністры Венгрыі, Польшчы, Латвіі, Югаславіі, кіраўнікі шэрага іншых еўрапейскіх краін.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**



# МІНЧАНЕ ПРЫЗНАЛІСЯ Ў ЛЮБВІ СВАЙМУ ГОРАДУ І ПРЭЗІДЭНТУ

У мінулыя выхадныя, ужо дзесяты раз, мінчане адзначылі свята свайго горада. Цяпер арганізатары назвалі яго цёпла і проста: «Я люблю Мінск». Прызнацца ў любві нашай сталіцы прыйшоў на свята разам з мінчанамі, кіраўнікамі і гасцямі горада Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

Сваю прывітальную прамову кіраўнік дзяржавы не выпадкова пачаў са слоў удзячнасці ўдрас савецкіх салдат і тых, хто ўзняў сталіцу з руін. Свята горада стала своеасаблівым працягам урачыстасцей, прысвечаных 52-й гадавіне вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Прэзідэнт выказаў упэўненасць у тым, што ўсе існуючыя цяпер цяжкасці часовыя. «Мы прагігаем будаваць наш горад, азеляняць і добраўпарадкоўваць яго, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — І на гэтым фоне мне цяпер зусім не хацелася б, каб наш Мінск ператвараўся ў мітынгоўчы, абдураны заезджымі палітыкамі людскі паток, што змятае ўсё на сваім шляху. Не для гэтага нашы бацькі і дзяды будавалі наш горад і перадалі нам яго ў спадчыну. Няхай герайчная гісторыя Мінска стане нашым добрым памочнікам у няпростыя часы, нашым праваднікам і арыенцірам».




Увесь гэты святочны дзень кіраўнік дзяржавы вырашыў правесці разам з мінчанамі. Таму адразу ж пасля цырымоніі адкрыцця Дня горада Аляксандр Лукашэнка адправіўся па гандлёвых радах. Аднак адпачыць і расслабіцца Прэзідэнту так і не ўдалося. На кожным кроку яго спынялі людзі і задавалі самыя розныя пытанні, што датычаць як у цэлым эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне, так і больш вузкіх асабістых праблем. Жыхары сталіцы не ўпусцілі магчымасць даведацца, што думае Аляксандр Лукашэнка аб перамозе Барыса Ельцына на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі. «Усе пытанні мы будзем вырашаць з ім разам, — сказаў Прэзідэнт. — Тое, што Барыс Ельцын обрана для Беларусі, — гэта факт. Невядома, як бы адносіліся іншыя».

Размова ля Палаца спорту зацягнулася больш чым на дзве гадзіны, але на гэтым гутарка Прэзідэнта з грамадзянамі не закончылася. Тысячы мінчан і гасцей сталіцы чакалі кіраўніка дзяржавы ў Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага, дзе таксама праходзіла свята. Ужо ля ўваходу ў парк Аляксандр Лукашэнка трапіў у шматлюднае акружэнне. І хоць усякі раз гутаркі пачыналіся з прызнанняў мінчан у любві да Прэзідэнта і віншаванняў яго са святам, і тут гучалі вострыя пытанні. Было выказана пажаданне часцей бачыць кіраўніка дзяржавы ў прамым тэлеэфіры. Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што мае намер арганізаваць на рэспубліканскім тэлебачанні цыкл перадач «Урокі Прэзідэнта», у якіх ён будзе папулярна расказваць аб тым, што робіцца ў краіне, аб сваіх планах, раіцца з людзьмі. Апошняе, падкрэсліў Прэзідэнт, асабліва важна для яго.

«Я магу нешта зрабіць, пакуль мяне падтрымлівае народ, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Больш мне абаперціся няма на каго. І таму асноўныя жыццёва важныя для дзяржавы пытанні я буду выносіць на агульнанародныя рэферэндумы». Прэзідэнт Беларусі паведаміў, што ўжо ў верасні мае намер правесці рэферэндум, галоўным пытаннем якога будзе змяненне Канстытуцыі. Праект папраўках да Асноўнага Закона ў бліжэйшы час будзе апублікаваны ў друку, каб жыхары краіны змаглі ўважліва з ім азнаёміцца і ўнесці свае прапановы. Прэзідэнт падкрэсліў, што хоча цывілізавана будаваць дзяржаву, аднак рамкі яго цяперашніх паўнамоцтваў не заўсёды даюць магчымасць рабіць гэта ў поўнай адпаведнасці з існуючым заканадаўствам. На яго погляд, у Канстытуцыі павінны быць больш дакладна вызначаны правы кіраўніка дзяржавы. На бліжэйшы рэферэндум мяркуецца вынесці і пытанні, што датычаць прыватнай уласнасці на зямлю, магчымасцей увядзення платных медыцынскіх паслуг і адукацыі.

Час знаходжання Прэзідэнта ў гэтым парку таксама выйшаў далёка за рамкі, адведзеныя пратаколам. Аляксандр Лукашэнка наведаў «Горад майстроў», у якім разгарнулі свае выстаўкі-продажы сталічныя ПТВ, паслухаў выступленні дзяцей на адной з канцэртных пляцовак. Арганізатары свята пастараліся, каб у гэты дзень нікому не было сумна. Жадаючыя маглі паспаборнічаць з прафесіяналамі ў сапраўдным рыцарскім турніры, паўдзельнічаць у шматлікіх конкурсах і гульнях, павесяліцца на атракцыёнах.

(Заканчэнне на 2-й стар.)



# Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, МІНСК!

Не памылюся, калі скажу, што мэру Мінска Уладзіміру Ярмошыну ўпершыню даволіся выступаць з прамовай стоячы пасярод Свіслачы ў палове першай гадзіны ночы. Тым больш, што ноч гэта была купальская, а прамова вельмі кароткая — прывітальная да ўсіх удзельнікаў святкавання.

Менавіта сярод роўнядзі Свіслачы была створана тая плавучая пляцоўка — адна са шматлікіх пляцовак традыцыйнага гарадскога свята «Я люблю Мінск», якое прайшло ў мінулую суботу і нядзелю. Пачалося яно на праспекце Машэрава вельмі ўрачыста з удзелам тысяч гасцей, лепшых прафесійных і самадзейных спевакоў, музыкантаў, танцораў. Прысутнічалі тут і першыя асобы Рэспублікі Беларусь. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сваім з'яўленнем сярод адпачываючай публікі ледзь не сарваў сцэнарый свята — так шмат было жадаючых павітацца з ім, задаць часам даволі няпростыя пытанні.

Гл. 3 і 7 стар.

## ГАРЫЗОНТЫ МІНСКІХ ЭЛЕКТРАРАМОНТНІКАЎ

На нядаўняй міжнароднай канферэнцыі па інвестыцыях, што праходзіла ў сталіцы нашай рэспублікі, сярод мноства выстаўленых там стэндаў з прадукцыяй дастойнае месца займалі вырабы Мінскага доследнага электрарамонтнага завода. Больш таго, патэнцыяльныя замежныя інвестары не аднойчы заводзілі гутаркі з прадстаўнікамі завода наконт магчымых укладанняў сродкаў у асваенне выпуску найбольш прагрэсіўных у свеце вентыльных электрарухавікоў. І стрымлівае іх пакуль што адно: прадпрыемства з'яўляецца дзяржаўнай формай уласнасці, а з дзяржавай прыватнік не жадае мець ніякіх адносінаў.

Цікавая і яшчэ адна акалічнасць. На фоне тых вялікіх эканамічных і сацыяльных узрушэнняў, што пануюць навокал, Мінскі доследны электрарамонтны завод з'яўляецца свайго роду астраўком спакою і дабрабыту: тут не зніжаюцца аб'ёмы вытворчасці, ёсць прыбытак, людзі рэгулярна атрымліваюць заработную плату. Створанае на базе майстэрань па рамонту танкаў яшчэ ў 1945 годзе, прадпрыемства сёння адно з самых перадавых у сістэме Мінсельгасхарчу. Поспех калектыву ў многім звязаны з яго дырэктарам Аляксандрам Кучынскім, які прыйшоў сюды майстрам яшчэ ў 1964 годзе пасля заканчэння БІМЭСГ. Амаль 15 гадоў працаваў тут галоўным інжынерам. Да пары яму і цяперашні галоўны інжынер Іван Бялевіч, які на заводзе з 1970 года, галоўны тэхнолаг Генадзь Герчыкаў — таксама ветэран завода. Фінансавая ж стабілізацыя прадпрыемства ў многім звязана са зладжанай работай бухгалтэрыі, якую ўзначальвае Марыя Цыкунова. Словам, спецыялісты — залаты фонд прадпрыемства, як, дарэчы, і рабочыя, якія таксама даражаць родным прадпрыемствам.

Пра тое, як калектыву завода ва ўмовах вострага эканамічнага крызісу ўдаецца трымацца на плаву, пра новыя гарызонты ў жыцці электрарамонтнікаў і ішла размова ў час сустрэчы з кіраўніком прадпрыемства.

Гл. 6 стар.

## МІНЧАНЕ ПРЫЗНАЛІСЯ Ў ЛЮБВІ СВАЙМУ ГОРАДУ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Другі сталічны парк — імя Янкі Купалы — стаў цэнтрам мастацтваў. Тут адбылося свята купалаўскай паэзіі, выступілі многія праслаўленыя калектывы і салісты, удзельнікі мастацкай самадзейнасці. У алеях парку свае работы размясцілі мастакі, народныя ўмельцы. А тым часам на пляцоўцы каля сталічнага Палаца спорту набірала размах піўное шоу пад назвай «Смага-96». У яго рамках прайшла прэзентацыя новага сорту піва «Сябры». Праўда, прырода па-свойму адгукнулася на гэта шоу і «спатоліла» смагу паклоннікаў піва праліўным даждажом, таму арганізатарам прыйшлося крыху змяніць далейшы сцэнарый усяго свята. Аднак прыемных сюрпрызаў ад гэтага не стала менш. Галоўным з іх была балетна-светлавая феерыя. Яе унікальнасць заключаецца ў тым, што жыхары сталіцы змаглі ўпершыню ўбачыць грандыёзную пастаноўку на вадзе з выкарыстаннем светлавых эфектаў. А закончылася феерыя грандыёзным феерверкам, які азнаменаваў наступленне купальскай ночы. Купальскае гулянне адбывалася да самай раніцы. У нядзелю ў сталіцы працягваліся ўрачыстасці з выпадку свята горада.

**Віктар КУКЛОЎ, Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 243

**Аб устанаўленні свята — Дня работнікаў лёгкай прамысловасці**

Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь свята — Дзень работнікаў лёгкай прамысловасці і кожны год адзначаць яго ў другую нядзелю чэрвеня.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 ліпеня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 245

**Аб унясенні змянення ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 снежня 1995 г. № 516**

1. У падпункце 3.1 пункта 3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 снежня 1995 г. № 516 «Аб некаторых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 36, арт. 879) словы: «600 млрд. рублёў» замяніць словамі: «2 трлн. рублёў».

2. Гэты ўказ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

8 ліпеня 1996 г., г. Мінск.

## РАСІЙСКІЯ ПАРЛАМЕНТАРЫІ ПРЫБЫВАЮЦЬ У МІНСК

**Афіцыйны візіт у Беларусь дэлегацыі Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі адбудзецца 10-11 ліпеня. У саставе дэлегацыі, якую ўзначальвае Старшыня Дзярждумы Генадзь Селязнёў, кіраўнікі дэпутацкіх груп і камітэтаў Уладзімір Мядзведзеў, Мікалай Рыжкоў, Мікалай Харытонаў, Георгій Ціханаў і іншыя.**

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, расійскія дэпутаты сустрэнуцца з Прэзідэнтам рэспублікі Аляксандрам Лукашэнкам, Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім, прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром, кіраўніком знешнепалітычнага ведамства Уладзімірам Сянько. Генадзь Селязнёў мае намер выступіць на сесіі Вярхоўнага Савета. Расійскія парламентарыі наведаюць таксама Канстытуцыйны суд рэспублікі, сустрэнуцца з прадстаўнікамі рускай інтэлігенцыі ў Беларусі.

**БЕЛТА.**

## БАСТУЮЦЬ У РАСІІ, А ЗАВОДЫ СПЫНЯЮЦЦА Ў НАС

**Аднавіўшы работу з 1 ліпеня, Мінскі завод колавых цягачоў пакуль будзе працаваць на няпоўную магутнасць.**

Як паведаміў дырэктар прадпрыемства Уладзімір Волкаў, вострай застаецца праблема пастаўкі камплектуючых з Тутаеўскага і Яраслаўскага маторных заводаў. Абодва прадпрыемствы завінаваціліся Яраслаўскаму заводу паліўнай апаратуры, на якім, у сваю чаргу, да 5 жніўня абвешчана забастоўка. Спыненне расійскіх пастаўшчыкоў выкліча цяжкасці ў рабоце беларускага прадпрыемства.

Праблема можа быць вырашана, калі Мінскі завод колавых цягачоў вынайдзе сродкі для аплаты рухавікоў фірмы «Мерседэс», кантракт на пастаўку якіх падпісаны. Уласных сродкаў прадпрыемства не мае, а крэдыты ўзяць не можа. Спадзяванні ўскладаюцца на візіт дэлегацыі фірмы «Мерседэс», які запланаваны на 21 ліпеня.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## У РАБОТНІКАЎ АДУКАЦЫІ ЗАРАЗ АДНА МЭТА — АТРЫМАЦЬ ГРОШЫ, АДЫХОДЗЯЧЫ Ў АДПАЧЫНАК

**Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» старшыня прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамара Чобатава, запазычанасць па настаўніцкай заработнай плаце, дзякуючы прынятым мерам зніжаецца, але пагашана, на вялікі жаль, не поўнасцю.**

Калі на 21 чэрвеня запазычанасць складала па рэспубліцы 177 мільярдаў 180 мільёнаў, то ўжо праз тыдзень зменшылася ў 3,5 раза і склала 51 мільярд 680 мільёнаў. Самая вялікая запазычанасць на канец чэрвеня ў Гомельскай вобласці — 19 мільярдаў 120 мільёнаў, там жа некаторай частцы настаўнікаў не выплацілі нават майскага заробку. Таксама вялікая сума запазычанасці па Мінскай вобласці — 14 мільярдаў 250 мільёнаў, а самая малая на Гродзеншчыне — 170 мільёнаў.

Гэта становішча выклікае вялікую заклапочанасць работнікаў галіновага прафсаюза, таму Тамара Іосіфаўна Чобатава мае намер сама выступіць з дакладам «Аб стане запазычанасці па заработнай плаце і грошах на адпачынак работнікам адукацыі» на пасяджэнні Нацыянальнага савета, якое адбудзецца дзесьці ў другой палове ліпеня. «Калі пытанне не вырашыцца, — зазначыла Тамара Іосіфаўна, — мы будзем вымушаны склікаць нечарговы прафсаюзны пленум і глядзець, што рабіць далей. Зарплату настаўнікам павінны плаціць, хаця б праз папярэднія датацыі і крэдыты з дзяржаўнага бюджэту. Іншага выйсця не існуе. Мы ж ужо не гаворым нават аб тым, што ў бягучым годзе не створана ні аднаго спартыўна-аздараўленчага студэнцкага лагера, а імкнёмся вырашыць самыя надзённыя праблемы».

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ІНІЦЫЯТЫВА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ АБ СТВАРЭННІ БЯЗ'ЯДЗЕРНАЙ ЗОНЫ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў РЭЧЫШЧЫ ЎСЁЙ ПРАВОДЗІМАЙ ІМ ПАЛІТЫКІ

**«Сённяшняя ініцыятыва Прэзідэнта нашай краіны аб стварэнні бяз'ядзернай зоны не нарадзілася адразу, яна выпакутавана і знаходзіцца ў рэчышчы ажыццяўляемай ім палітыкі». Так заявіў памочнік кіраўніка дзяржавы Сяргей Посахаў, каменціруючы яго заяву, зробленую 3 ліпеня.**

Паводле слоў Сяргея Посахава, Аляксандр Лукашэнка пайшоў на гэта, улічваючы настойлівае імкненне многіх суседніх дзяржаў уступіць у НАТО, а таксама іх заявы аб тым, што яны маюць намер быць паўнацэннымі членамі альянсу і, як вынік, ніякіх гарантый і абяцанняў па недапушчэнню размяшчэння на іх тэрыторыі ядзернай зброі ўзяць на сябе не могуць. «Таму Аляксандр Лукашэнка прапанаваў зрабіць гэты працэс шматбаковым. З тым, каб усе краіны Балтыі, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія імкнуцца ў НАТО, узялі на сябе пэўныя абавязацельствы і стварылі ў рэгіёне бяз'ядзерную зону. У гэтым выпадку ядзерная зброя, што належала Савецкаму Саюзу і краінам Варшаўскага Дагавора, і тая, якая сёння выводзіцца або ўжо выведзена з гэтай тэрыторыі, не будзе ў перспектыве заменена на ядзерную зброю НАТО».

На думку Сяргея Посахава, заключэнне такога пагаднення сёння магло б пазбавіць многія краіны, якія імкнуцца ў НАТО, ад пакутлівага выбару. Далучыўшыся да беларускай ініцыятывы, яны маглі б стаць членамі НАТО, не падвяргаючыся рызыцы размяшчэння на сваіх тэрыторыях ядзернай зброі.

«Больш таго, мы лічым, што гэты раён Еўропы ўяўляе сабой нейкую этнакультурную прастору, звязаную пэўнымі гістарычнымі, культурнымі і проста чалавечымі сувязямі. Ён уяўляе сабой даволі зразумелую, у сэнсе інтарэсаў бяспекі, прастору. Гэта таксама з'явілася прычынай выступлення Аляксандра Лукашэнкі з такой ініцыятывай», — сказаў памочнік кіраўніка дзяржавы.

Сяргей Посахаў таксама заявіў, што Беларусь разлічвае на шырокі грамадскі і палітычны рэзананс наконт ініцыятывы кіраўніка нашай дзяржавы. У гэтым выпадку практычныя шляхі вырашэння вельмі складанага пытання — пошуку новай мадэлі агульнаеўрапейскай бяспекі — могуць быць знойдзены ў ходзе шматбаковых кансультацый. Ініцыятыва, паводле яго слоў, вельмі важная і з пункту гледжання ўдзелу ў працэсе фарміравання агульнаеўрапейскай бяспекі такіх невялікіх дзяржаў, як Беларусь. «Неабходна, каб наш голас, голас нашых суседзяў у гэтым працэсе быў пачуты і ўлічаны», — сказаў ён.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## 7 АРЫШТАВАНЫМ УКРАІНЦАМ ДАВЯДЗЕЦЦА ЧАКАЦЬ ДА 27 ЛІПЕНЯ

**Следчы па асабліва важных справах Мінскай гарадской пракуратуры Сяргей Новікаў, які вядзе крымінальную справу па фактах масавых праваправапарушэнняў 24 сакавіка і 26 красавіка ў Мінску, зазначыў карэспандэнту «Звязды», што следства паспяхова ідзе да завяршэння. 27 чэрвеня яно было прадоўжана на месяц і павінна закончыцца 27 ліпеня, акурат на Дзень незалежнасці.**

Сяргей Новікаў інтрыгуюча зазначыў, што к гэтаму часу ў справе што-небудзь можа і змяніцца, але, натуральна, раскрываць карты ён не захацеў. Як вядома, у следчым ізалятары па гэтай справе сядзяць толькі сем украінскіх грамадзян, членаў Украінскай народнай самаабароны. Паводле слоў следчага Новікава, іх фізічнае самаадчуванне нармальнае, прынамсі на мінулым тыдні, калі ён разам з усімі іхнімі адвакатамі адведваў іх у ізалятары, ніхто не выказаў ніякіх скаргаў.

На просьбу карэспандэнта «Звязды» дазволіць сустрэцца журналісту нашай газеты з арыштаванымі ўкраінскімі грамадзянамі, С. Новікаў зазначыў, што яму не хацелася б гэта рабіць да заканчэння следства. Як вядома, не так даўно такую магчымасць мела здымачная брыгада Беларускага тэлебачання...

Украінскі консул у Мінску Усевалад Калоцій зазначыў карэспандэнту «Звязды», што, паводле яго інфармацыі, следства па справе 7 украінскіх грамадзян заканчваецца і трэба чакаць суда з 15 па 25 ліпеня. Менавіта ад суда, на яго думку, і залежыць далейшы лёс гэтых украінцаў: на судзе могуць быць прыняты розныя варыянты рашэнняў, могуць быць улічаны характарыстыкі на гэтых асоб, стан іх здароўя... Паводле слоў украінскага консула ў Мінску, розныя арганізацыі і фізічныя асобы з Украіны праз пасольства па-ранейшаму выказваюцца за мэтазгоднасць вызвалення гэтых сямі ўкраінскіх грамадзян і перадачы іх на радзіму. Афіцыйны Кіеў, паводле яго слоў, таксама праводзіць актыўную работу па вызваленню сваіх грамадзян, прапрацоўваўся, напрыклад, варыянт залогу, але ў беларускім крымінальна-працэсуальным кодэксе гэта яшчэ не прадугледжана. Некаторыя беларускія службовыя асобы выказаліся аб неабходнасці знайсці кампраміс у гэтай справе, каб не абвастраць сітуацыю далей, але рашэнняў такіх ніхто не прымае...

А вось спробы лідэраў УНСО абмяняць гэтых сем вязняў на расійскіх ваеннапалонных у Чачні Усевалад Калоцій назваў несур'ёзнымі. Ён прызнаў, што, паводле яго інфармацыі, такое пытанне прапрацоўвалася, але з расійскага боку, на яго погляд, ніхто не захоча ўмешвацца ў гэтую гісторыю. За апошні месяц Усевалад Калоцій ні разу не адведаў арыштаваных украінскіх грамадзян, па той прычыне, што яны самі не прасілі аб гэтым, а праяўляць ініцыятыву аб такой сустрэчы з боку пасольства некарэктна, перш за ўсё па той прычыне, што асабліва нічым яно не можа дапамагчы зняволеным. Тым не менш, за апошні час амаль усе ўкраінскія вязні змаглі пабачыцца з роднымі, усе яны атрымалі за чэрвень перадачы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## СУСТРЭЧА НАРОДНЫХ ЛЕКАРАЎ ПРАХОДЗІЦЬ НА НАРАЧЫ

**Чацвёрты раз ліпень збірае на маляўнічай Нарачы народных лекараў з усіх куткоў былога Саюза.**

Лекары і экстрасенсы, астролагі і гомеапаты, масажысты і біяэнергетыкі, а таксама светачы афіцыйна прызнанай медыцыны на працягу месяца будуць жыць у палатках, харчавацца выключна вегетарыянскімі стравамі, абменьваючыся пры гэтым вопытам. Арганізатар мерапрыемства — лекар з Мядзеля Мікалай Озераў — намеціў правесці для «народнікаў» курс лекцый, якія будуць чытаць прафесары і дактары навук з розных клінік краіны.

Акрамя таго, тут чакаюць усіх, хто пакуль беспаспяхова імкнецца вярнуць страчанае здароўе, але не згубіў веру ў тое, што будзе вылечаны. Як і ўрачы, што афіцыйна далі клятву Гіпакрата, народныя лекары абавязаны аказваць дапамогу кожнаму, хто да іх звярнуўся.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**Стаўбцоўскі раённы выканаўчы камітэт і раённы Савет дэпутатаў глыбока смуткуюць з прычыны смерці Заслужанага дзеяча культуры Беларусі, старэйшага сына Якуба Коласа Данілы Канстанцінавіча МІЦКЕВІЧА і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.**

*ЗДАРЭННІ*

## СМЯРОТНЫ ДУПЛЕТ

**Трагічны выпадак на паляванні адбыўся ў ваколіцы вёскі Вердамічы Свіслацкага раёна. Двое братоў — студэнт і выпускнік мясцовай школы, выкарыстаўшы адсутнасць дома бацькі-паляўнічага, узялі па стрэльбе, каб падстрэліць дзічыну.**

З надыходам прыцемкаў адправіліся на ўзмежак поля, якое акружаў лес. Было ўжо за поўнач, але паляванне не прыносіла поспеху. Спадзеючыся ўсё ж вярнуцца дамоў са здабычай, браты вырашылі абысці поле з абодвух бакоў. Падчас гэтага малодшы заўважыў наперадзе рухомы сілуэт і паслаў у яго карцечны дуплет. Калі ж ён падбег бліжэй, дык убачыў, што на зямлі ляжыць брат з параненымі грудзьмі і галавой. Ён памёр на месцы.

**Георгій СЫСОЙ, прэс-цэнтр Гродзенскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў.**

*ВЕРСІІ*

## КУПАЛЛЕ СА СЛЯЗАМІ НА ВАЧАХ

**Ноч на Купалу, як вядома, заўсёды суправаджаецца карагодамі, песнямі... Парадаваць людзей песнямі на свята вырашылі і зоркі беларускай эстрады і сабраліся на канцэрт у Шклове.**

Прыехалі туды ансамблі «Свята», «Верасы», «Рублёвая зона», Ліка, прысутнічалі на канцэрце і госці з Украіны. Аднак «пошукі» папараць-кветкі для некаторых спевакоў закончыліся бязрадасна: многія з іх атрымалі хімічны апёк рагавіцы першай ступені. Як мяркуецца, прычынай здарэння сталі густыя клубы дыму, якія суправаджалі на сцэне выступленне айчынных і з блізкага замежжа «зорак». Пацярпеўшыя звярнуліся па дапамогу ў 10 гарадскую клінічную бальніцу Мінска. Па інфармацыі аднаго з пацярпеўшых, апёкі рагавіцы атрымалі каля 50 чалавек. Галоўны ўрач 10 гарадской клінічнай бальніцы адмовіўся прадаставіць інфармацыю карэспандэнту «Звязды», спаслаўшыся на яе адсутнасць для прэсы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ТЫДЗЕНЬ У МАЗЫРЫ ПАЧАЎСЯ З ТРАГЕДЫІ

**Магутны выбух разбудзіў у панядзелак незадоўга да світання многіх жыхароў Мазыра, якія пражываюць на вуліцы Пралетарскай. Трагедыя здарылася на пятым паверсе ў першым пад'ездзе аднаго з пяціпавярховых мураваных дамоў. У выніку выбуху тры чалавекі загінулі, два — шпіталізаваны.**

Аператыўныя і выратавальныя службы праз некалькі хвілін прыбылі на месца здарэння і тут жа арганізавалі эвакуацыю жыльцоў з пацярпеўшага пад'езда. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Гомельскай абласной пракуратуры, прычынай выбуху, хутчэй за ўсё, стала ўцечка газу.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

## БАЯВАЯ ГРАНАТА НА РАБОЧЫМ СТАЛЕ

Баявую гранату Ф-1 знайшлі на рабочым стале аднаго з заснавальнікаў мінскай фірмы «Цветасол» аператыўныя супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення падатковых расследаванняў. Здарылася гэта ў час планавай праверкі суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца дылінгавымі аперацыямі.

Там жа ў офісе, што размяшчаецца ў адной з кватэр шматпавярховага жылога дома, былі знойдзены незарэгістраваны газава-шротавы рэвальвер з заражаным шротавым патронам і неапрыходаваныя 5 тысяч долараў ЗША.

Па гэтаму факту праводзіцца разбор.

**БЕЛТА.**

## ПАКУЛЬ СМЯЁМСЯ — НЕ ПРАПАДЗЁМ!

**У рэдакцыю прынеслі (проста так, паказаць) вучнёўскі сшытак у жоўтай вокладцы, спісаны рыфмаванымі радкамі. Яшчэ адна «Энеіда навыварат» ці «Лысая гара» — хай сабе крышку на іншым мастацкім узроўні, але ўсё ж абразчык неўміручай народнай творчасці.**

Аматарская паэма пра тое, як кабета хадзіла ў «вялікае багацце» і што з гэтага атрымалася. Пачынала «пірушкай», а скончыла жабрачкай-пабірушкай. Такі, ведаеце, дасціпны погляд мудрага чалавека на грымасы рэчаіснасці.

Наша госця і чытачка, назавём яе Галінай Васільеўнай, расказала, што ў адрозненне ад іншых фальклорных твораў аўтар гэтага — вядомы і ў яго яшчэ шмат такіх вершаваных сшыткаў. І вось самае цікавае: якраз у гэтыя дні Пятро Аляксандравіч Левашкевіч з Ратамкі, што пад Мінскам, адзначае сваё 85-годдзе.

На жаль, былы настаўнік матэматыкі сустракае юбілей у мясцовай бальніцы. Нам хочацца падтрымаць удзельніка і інваліда Вялікай Айчыннай вайны і пажадаць новых вершаў.

З юбілеем, ПЯТРО АЛЯКСАНДРАВІЧ!

**Звяздоўцы.**

# Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, МІНСК!






(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

Спякотны быў дзень, тэрмометр часам паказваў за трыццаць градусаў (нават для тых, хто ахалоджваўся півам). Таму пад канец дня грымнула навальніца і пайшоў праліўны дождж. Стыхія ўнесла свае карэктывы у ход свята. Хуценька звярнуліся выставы мастакоў і народных умельцаў у скверы Я. Купалы, знік з вуліц стракаты натоўп, імклівыя раўчукі пабеглі па імправізаванай сцэнічнай пляцоўцы ў Траецкім прадмесці, дзе павінна была адбыцца опера «Дзікае паляванне караля Стаха».



Закончыўся лівень — зноў загучала музыка ў скверах, зноў разгарнуўся на вуліцах святочны гандаль, а з надыходам прыцемак святочную атмасферу ўзмацнілі яркія рознакаляровыя гірлянды лямпачак на вуліцах, дахах дамоў, на мастах. У такіх вось першых прыцемках і пачалася галоўная частка — балетная і светлавая феерыя на плаваючай сцэне пасярод Свіслачы. Жыхары Мінска яшчэ ніколі не бачылі ў сваім горадзе такога — неба прачарцілі рознакаляровыя лазерныя промні, па цёмных хвалях ракі пабеглі ўсе колеры вясёлкі. На пляцоўцы выступілі артысты балета, эстрадныя танцоры, а ў завяршэнне ў небе над Свіслаччу ўспыхнуў святочны феерверк.

З гэтай вось плавучай пляцоўкі і звярнуўся да ўдзельнікаў свята мэр беларускай сталіцы: падзякаваў артыстам і запрасіў на працяг Купалля — туды, дзе павінны былі, нягледзячы на ўсе праліўныя дажджы, запаліцца начныя вогнішчы.

**НА ЗДЫМКАХ**: святкаванне на праспекце Машэрава; мінчане і госці сталіцы ўбачылі выступленні піратэхнічнага балета — рэдкае відовішча, у якім спалучыліся танец і феерверк; кніжныя прылаўкі — адны з самых вялікіх на ярмарачнай плошчы.

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ У 1991 годзе ў сельскагаспадарчай вытворчасці было занята **адзін мільён 17 тысяч вяскоўцаў,** а ў мінулым ужо толькі **779 тысяч**.

❑ У Беларусі адзін прыватны прадпрымальнік прыпадае **на 50 жыхароў рэспублікі**, усяго ж у краіне зарэгістравана больш як **250 тысяч** недзяржаўных суб'ектаў гаспадарання.

❑ Віцэ-прэзідэнт ЗША Эл Гор заявіў у сваім выступленні, што **Злучаныя Штаты гатовы** працягваць сваю дапамогу краінам, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

❑ Сёння на Мінскім трактарным заводзе працуе **16 працэнтаў пенсіянераў,** а на Мінскім аўтазаводзе іх колькасць складае 13 працэнтаў.

❑ Даследаванні амерыканскіх вучоных паказваюць, што **вірус СНІДу дастаткова лёгка перадаецца праз рот**.

❑ У 1991 годзе гаспадаркі рэспублікі **набылі 14.325 трактароў, 2173 збожжаўборачныя камбайны**, у мінулым жа было набыта адпаведна 304 і 30.

❑ У першым паўгоддзі аплата за спажыванне энерганосьбітаў склала **каля 74 працэнтаў,** а запазычанасць за іх дасягнула **1269,8 мільярда рублёў.**

❑ На пачатку гэтага года на ўліку ў міліцыі стаялі **2154 спажыўцы наркотыкаў,** 1614 з іх пастаўлены дыягназ **«наркаманія».**

❑ **Кожны трэці** выходзец з сям'і кіраўніка дзяржпрадпрыемства на Украіне стаў **уладальнікам або саўладальнікам прыватнай справы**.

❑ Сёння Беларусь **па аб'ёмах спажывання гарэлкі** займае адно з першых месцаў у свеце: у сярэднім гадавы аб'ём на аднаго чалавека складае **каля 23—25 літраў.**

❑ **Больш за 30 найменняў** мужчынскага адзення «ад Кардэна» пачало выпрабляць бабруйскае народнае прадпрыемства «Славянка».

❑ Да канца мінулага года фінансавыя активы беларускіх страхавых кампаній склалі **326 мільярдаў рублёў.**

## З НАГОДЫ 220-й ГАДАВІНЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЗША

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Кенэт Яловіц арганізаваў прыём у гонар нацыянальнага свята амерыканскага народа — Дня незалежнасці. На прыёме прысутнічалі прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў, дзеячы навукі, культуры, журналісты.

Звяртаючыся да прысутных, пасол падкрэсліў, што, прыняўшы 220 гадоў таму Дэкларацыю незалежнасці, ЗША выбралі шлях свабоды і дэмакратычнага развіцця і дабіліся за гэты час начных поспехаў. Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі ад імя кіраўніцтва краіны перадаў добрыя пажаданні амерыканскаму народу з нагоды святкавання Дня незалежнасці. Кіраўнік парламента выказаў упэўненасць у спрыяльнай будучыні амерыканска-беларускіх адносінаў.

**БЕЛТА.**

*РЭДКІ ФАКТ*

## ГОД НАРАДЖЭННЯ — 1882!

### Калі ласка, пазнаёмцеся, — самы старэйшы ў рэспубліцы падпісчык «Звязды»

Паважаная рэдакцыя газеты «Звязда», хачу вас пазнаёміць з самай, магчыма, старэйшай вашай падпісчыцай. У нас, у Талачынскім раёне, у в. Забалацце Азярэцкага сельсавета жыве Леанора Аўгусцінаўна Сяліцкая. Яна — ... 1882 года нараджэння. Нягледзячы на невялікую пенсію, якой ледзь хапае на харчаванне і лекі, яна ўмудраецца выпісваць газеты, ведае імёны беларускіх палітыкаў, слухае радыё, асабліва ёй падабаюцца рэлігійныя перадачы. У Леаноры Аўгусцінаўны добрая памяць, яна памятае царстваванне Мікалая II, першую сусветную вайну, рэвалюцыйныя падзеі, калектывізацыю, сталінскія рэпрэсіі, фашысцкую акупацыю, а тым больш пасляваенныя гады.

Нарадзілася Л. Сяліцкая ў вялікай сялянскай сям'і, якая жыла ў маёнтку Зарэчча памешчыка Рамана Славінскага. Як і ўсе дзеці сялян, якія працавалі ў яго, закончыла 4-класнае валаснное народнае вучылішча. Расказваючы аб дарэвалюцыйным Талачыне, называе старыя назвы вуліц, памятае, дзе знаходзіўся маёнтак Славінскага, успамінае рэлігійныя святы, службы, якія праводзіліся ў касцёле, задаволена тым, што цяпер касцёл адраджаецца. Леанора Аўгусцінаўна пісьменная, глыбока веруючая жанчына. Відаць, менавіта вера ў Бога дапамагла ёй пераадольваць усе жыццёвыя цяжкасці, выхоўваць дзяцей.

Замуж выйшла ў 1926 годзе, калі ёй было ўжо за 40 гадоў. Разам з мужам Іванам Мацвеевічам пераехала жыць на хутар Кляновы Гай, непадалёк ад Талачына. Савецкая ўлада дала зямлю, на якой працавалі з раніцы да вечара, стараліся падняць сваю гаспадарку. Памятае Леанора Аўгусцінаўна і перакосы, дапушчаныя пры калектывізацыі, калі сілай забіралі ўсю жывёлу, і нічога не заставалася, як уступаць у калгас, а таксама артыкул І. Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў», у якім крытыкаваліся гэтыя перагібы. У 1930 годзе ўступіла ў калгас «Зара камунізму», многа працавала ў полі.

Замужам была ўсяго толькі 7 гадоў. Зімовай ноччу 1933 года «чорны воран» забраў мужа, пра лёс якога яна да сённяшняга дня нічога не ведае. Засталася адна з трыма маленькімі дзецьмі. Працаваць даводзілася з усіх сіл. Затым, у 1939 годзе, пераехала з хутара ў в. Забалацце, працавала ў калгасе, гадавала дзяцей. У гады Вялікай Айчыннай вайны за сувязь з партызанамі мясцовыя паліцаі схапілі яе. Некалькі месяцаў яна правяла ў Талачынскай турме, спала на цэментавай падлозе, кожны дзень ганялі на работу, наладжвалі допыты. Думала, што ніколі не вернецца дадому, перажывала за дзяцей, якія засталіся адны. Старэйшую дачку разам з іншымі жыхарамі в. Забалацце паліцаі таксама ганялі на работу, яна застудзіла ногі і 9 гадоў не магла хадзіць.

Пасля вызвалення раёна Леанора Аўгусцінаўна зноў працавала ў калгасе, даглядала дачку, гадавала сыноў. Калі дачка выздаравела, яна пайшла ў калгас. Цяпер на пенсіі, жыве разам з маці, а сыны атрымалі вышэйшую адукацыю. Сакрэту даўгалецця ў Леаноры Аўгусцінаўны няма: усё жыццё яна жыла па запаветах Хрыста.

**Ірына ПІКУЛІК,**
**часова выконваючая абавязкі дырэктара Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея.**

## СКАСІЛІ БОЛЬШ. ПРЫЧЫМ ПАЎСЮЛЬ

Калі для гараджан першы месяц лета традыцыйна быў часам адпачынку, то для вяскоўцаў — напружанай працы. Зараз, як вядома, на Беларусі ў разгары касавіца траў. На канец чэрвеня іх убрана ўжо на ўсіх 2/3 плошчаў. У параўнанні з такім жа часам папярэдняга года тэмпы ўборкі складаюць 120 працэнтаў.

Прагрэс дасягнуты ва ўсіх абласцях без выключэння, але асабліва значны ён на Магілёўшчыне (130 працэнтаў) і Гродзеншчыне (127 працэнтаў). Крыху адстаюць ад іх мінчане і гамяльчане (на 121 працэнт у адносінах да 1995 года), віцябчане (117 працэнтаў) і брэстаўчане (110 працэнтаў).

На просьбу карэспандэнта «Звязды» пракаменціраваць станоўчыя зрухі кіраўнік галоўнага ўпраўлення эканомікі Мінсельгаспрамхарча Тамара Дзегцярова заўважыла, што сёлета, бадай, упершыню за апошнія гады ўдалося больш-менш вырашыць дзве галоўныя праблемы — запчастак і паліва. Прычым грошы выдаткоўваюцца як з бюджэту, так і з пазабюджэтных фондаў. Таму ў гаспадарках, тэмпы нарыхтоўкі кармоў у якіх не надта здавальняючыя, прычыны трэба шукаць не ў недахопе сродкаў, а ва ўласнай нядбайнасці.

**Сяргей ГРЫБ.**

## КОЛЬКАСЦЬ СТРАТНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ЗМЕНШЫЛАСЯ

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ, колькасць стратных прадпрыемстваў у рэспубліцы па стану на 1 чэрвеня склала 2 тысячы 662. Па стану на 1 мая гэтая лічба была роўная 2 тысячы 831.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ЦІ ПАТРЭБНЫ ЎСЁ-ТАКІ РЭФОРМЫ?

## *Нататкі з семінара «Рэформы ў Ніжагародскай вобласці»*

**Ніжагародскім інстытутам развіцця бізнесу пры фінансавай падтрымцы Сусветнага банка ў Ніжнім Ноўгарадзе з 10 па 14 чэрвеня быў праведзены семінар «Рэформы ў Ніжагародскай вобласці», у рабоце якога прыняла ўдзел група дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

НІЖАГАРОДСКАЯ вобласць з'яўляецца адным з тых рэгіёнаў Расіі, дзе фарміраванне эканомікі, на мой погляд, набыло незваротны характар, нягледзячы на цяжкасці пераходнага перыяду, звязанага з крызісам вытворчасці, зніжэннем сацыяльнага ўзроўню жыцця людзей. Завершана першая фаза рэформаў. У вобласці блізка падышлі да другога этапа рэалізацыі гэтага працэсу, які цяпер патрабуе ўстанаўлення паслядоўнасці рэфарміравання і ўвядзення далейшых жорсткіх структурных і рэгулюючых мер. Узнікла рэальная неабходнасць рэфарміравання фінансавай і бюджэтнай сістэм, прывядзення іх у адпаведнасць з агульнапрынятымі міжнароднымі нормамі.

Вынікам першага этапа рэформаў стала, перш за ўсё, стварэнне нарматыўна-прававой базы для іх правядзення. Распрацавана Праграма прыватызацыі дзяржаўных і муніцыпальных прадпрыемстваў. Ёсць Праграма прыватызацыі зямлі і рэарганізацыі сельгаспрадпрыемстваў. Прыняты пакет нарматыўных дакументаў аб прыватызацыі зямлі пад прамысловымі прадпрыемствамі і многае іншае. Вынікам належнага прававога забеспячэння рэформаў у вобласці з'явілася прыватызацыя ўсёй муніцыпальнай уласнасці, 60 працэнтаў дзяржпрадпрыемстваў. Створаны вытворча-тэрытарыяльныя зоны, у якіх прадпрыемствы маюць льготны падатковы і мытны рэжымы, ім прадастаўляюцца інвестыцыйныя крэдыты тэрмінам на 5 гадоў і да т. п.. З мэтай упарадкавання прыватызацыйных працэсаў створаны Каардынацыйны савет па прыватызацыі, які разглядае бізнес-планы рэарганізуемых прадпрыемстваў. Дзейнічае Цэнтр рэгістрацыі нерухомасці.

У прыватнай уласнасці знаходзіцца 80—85 працэнтаў магазінаў. Паступова рэарганізуецца спажыўкаапeрацыя. Практыкуюцца мэтавыя рэгіянальныя ніжагародскія пазыкі і г. д.

Гэтыя і шэраг іншых мерапрыемстваў, накіраваных на рэфарміраванне эканомікі, дазволілі зменшыць спад вытворчасці ў вобласці ў 4 разы, а па 40 відах выпускаемай прадукцыі павялічыць яе аб'ём. І гэта пры тым, што 85 працэнтаў прамысловых прадпрыемстваў рэгіёна працавалі раней на ваенна-прамысловы комплекс. А канверсія такіх прадпрыемстваў, як вядома, патрабуе немалых сіл і сродкаў. Цяпер Ніжагародская вобласць не атрымлівае датацый з федэральнага бюджэту. 70 працэнтаў плацяжоў у абласны бюджэт складаюць паступленні ад прыватызаваных прадпрыемстваў. Вобласць выйшла на 6 месца ў Расіі па ўзроўню жыцця насельніцтва. Пры спажывецкай карзіне ў 250 тысяч расійскіх рублёў сярэдняя зарплата ў вобласці ў 1995 годзе склала 540 тысяч рублёў. А ў рэарганізаваных прадпрыемствах яна, як правіла, больш высокая.

Так, напрыклад, у акцыянерным таварыстве «Горкаўскі аўтамабільны завод» сярэдняя зарплата роўная 700 тыс. рублёў. Характэрным з'яўляецца і тое, што ва ўмовах рэструктурызацыі АТ «ГАЗ» не толькі захавала свой 118-тысячны калектыў, але і ў мінулым годзе павялічыла колькасць рабочых месц на 3000. У той час як на аўтазаводзе «ЗІЛ», напрыклад, з 65 тыс. працуючых засталося 23. Пакідаючы сабе ўсяго толькі 7 капеек з рубля прыбытку, аўтагігант здолеў у 1995 годзе атрымаць яго ў суме 250 млн. долараў. Акцыянеры атрымалі па 2070 рублёў дывідэндаў на 1 акцыю.

Акцыяніраванне прадпрыемства, створаныя ім свае недзяржаўныя інвестыцыйны, пенсіённы фонды, страхавая кампанія, таварыства «Аўтазаводскі парк» дазволілі кожнаму члену калектыву мець паслуг і льгот амаль на суму, роўную сярэдняй зарплаце. Завод утрымлівае вялікую сацыяльна-жыллёвую сферу (раён у 350 тысяч чалавек). На даным этапе рэфарміравання ў галіне ідзе працэс стварэння фінансава-прамысловых груп, у тым ліку — «Ніжагародскія аўтамабілі», куды ўвойдзе 32 прадпрыемствы, 2 з якіх — беларускія. Стварэнне такіх груп дасць магчымасць рэгуляваць цэнавую палітыку, палепшыць інвестыцыйную дзейнасць.

Спрыяльныя працэсы, якія вынікаюць у эканоміцы вобласці, далі магчымасць актыўна прыцягваць замежны капітал. Так, у 1995 годзе у вобласць інвесціравана 240 млн. долараў ЗША. У той час, як у Беларусі гэта лічба складае ўсяго каля 5 млн. долараў. Станоўчым прыкладам прыцягнення інвестыцый замежных дзяржаў з'яўляецца рэканструкцыя і мадэрнізацыя цэлюлозна-папяровага камбіната у г. Балахна Ніжагародскай вобласці.

Інвестыцыйны праект ААТ «Волга» (так цяпер называецца камбінат) з'яўляецца адным з самых паспяховых у Расіі з удзелам заходніх інвестараў. 90 працэнтаў акцый належаць замежным кампаніям. Астатнімі 10 валодаюць работнікі ААТ «Волга». Мадэрнізацыя прадпрыемства пры агульным аб'ёме інвестыцыйнага праекта ў 150 млн. долараў дазволіла павялічыць вытворчасць паперы ў 1995 г. на 80 працэнтаў у параўнанні з папярэднім годам і дасягнуць аб'ёму ў 491 тысячу тон. Захавана 4600 рабочых месцаў. Сярэдняя заработная плата на прадпрыемстве склала 1,5 млн. расійскіх рублёў.

Нягледзячы на тое, што ў вобласці паслядоўна праводзіцца працэс перадачы ведамаснага жылля, аб'ектаў сацыяльна-бытавога і культурнага прызначэння з балансу прадпрыемстваў на бюджэт гарадоў і раёнаў, АТ «Волга» і цяпер нясе расходы па ўтрыманню разгалінаванай сацыяльнай сферы. Мадэрнізацыя і рэканструкцыя прадпрыемства дазволілі палепшыць экалагічную абстаноўку ў некалькі разоў. Больш чыстымі сталі рэкі Волга і Ака — гордасць і набытак ніжагародцаў.

Распрацаваная Праграма прыватызацыі зямлі і рэарганізацыі сельгаспрадпрыемстваў дала магчымасць абысціся без рэвалюцыйнага скачка ў ажыццяўленні аграрнай рэформы і надала гэтаму працэсу эвалюцыйны і кіруемы характар. На базе калгасаў і саўгасаў Ніжагародскай вобласці былі створаны акцыянернае таварыства, асацыяцыі фермерскіх гаспадарак. У рэарганізаваных гаспадарках зямля падзелена на долі, а маёмасць — на паі. Выдадзены пасведчанні аб праве ўласнасці на зямлю і маёмасць. Праведзены аўкцыёны, якія дазваляюць найбольш справядліва падзяліць зямлю і маёмасць.

Аб'екты сацыяльнай сферы ў рэарганізаваных гаспадарках у асноўным перададзены на баланс мясцовых адміністрацый. Прадугледжана выдзяленне льготнага крэдыту гэтым гаспадаркам. Па рэарганізаваных гаспадарках ужо ў 1994 годзе ўраджайнасць збожжавых узрасла на 29,98 працэнта, бульбы — на 54,9 працэнта, надой ад адной каровы — на 14 працэнтаў, прыбаўленне ў вазе ад адной галавы буйной рагатай жывёлы — на 34 працэнты; сярэднямесячная зарплата — на 37,5 працэнта і да т. п.

У Ніжагародскай вобласці сельгаспрадпрыемствам не выдзяляюцца датацыі на рэалізацыю сельскагаспадарчай прадукцыі, аднак зацверджаны мэтавыя праграмы павышэння ўрадлівасці глебы, дзяржаўнай падтрымкі развіцця насенняводства і племяннной справы, крэдытавання аб'ектаў малой перапрацоўкі. Трэба прызнаць, што рэфарміраванне сельскагаспадарчых прадпрыемстваў не вырашыла ўсіх праблем аграрнага сектара. Аднак гэта рэальны спосаб вярнуць зямлі і іншым сродкам вытворчасці сапраўднага гаспадара. Рэарганізацыя па праграме «Зямельная рэформа ў Ніжагародскай вобласці» (збожжа) дала магчымасць захаваць ў любой гаспадарцы тую здаровую аснову, тыя сілы, якія здольны паспяхова весці справу, выкарыстоўваць наяўны патэнцыял для развіцця эфектыўнай таварнай вытворчасці.

У Ніжагародскай вобласці яшчэ нямала нявырашаных праблем. Ёсць беспрацоўе, праблема неплацяжоў, маюць месца нядоімкі ў бюджэт; па многіх відах прадукцыі яшчэ назіраецца спад... Але працэс рэфарміравання эканомікі паслядоўна і ўпэўнена набірае сілу. Закладзены асновы росту прадукцыйнасці працы, мадэрнізацыі прадпрыемстваў, умацавання грашова-крэдытнай сістэмы, створана нарматыўна-прававая база прыватызацыі і ўкаранення рыначных адносінаў, якія, безумоўна, прывядуць да далейшага павышэння ўзроўню жыцця насельніцтва. Людзі ўжо адчулі плён гэтай карпатлівай і патрэбнай работы адміністрацыі вобласці. Выражэннем падтрымкі курсу рэформаў сталі вынікі выбараў губернатараў вобласці ў канцы 1995 года на новы тэрмін. Безумоўным пераможцам ў перадвыбарным марафоне зноў стаў Б. Нямцоў. Сказаўшы «так» Нямцову, выбаршчыкі тым самым падтрымалі праводзімую ім палітыку рэформаў.

Дык ці патрэбны нам рэформы?

**Васіль СКОК,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб унясенні змянення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У пункце 1 раздзела VI Закона Рэспублікі Беларусь ад 13 студзеня 1995 года «Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 11, арт. 120) словы «з 1 студзеня 1996 года» выключыць.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*7 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.*
*№ 408-XIII.*

## ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб узнагароджанні КАЛЕСНІКАВА П. Р., ЛЯШЧЫНСКАЙ Н. А., МІЧУРЫНА В. С. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За актыўны ўдзел у рабоце Беларускай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў узнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**Калеснікава** Пімена Рыгоравіча — Героя Савецкага Саюза.

**Ляшчынскую** Неаніду Аляксандраўну — спецыяліста Рэспубліканскага Савета Беларускай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў.

**Мічурына** Васілія Сяргеевіча — Героя Савецкага Саюза.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

*28 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.*
*№ 414-XIII.*

# АСАМБЛЕЯ ПРАВАСЛАЎЯ ДЗЕЙНІЧАЕ...

**Як паказвае ўважлівы паліталагічны аналіз, з кожным месяцам у праваслаўным свеце, ды і не толькі ў ім, расце аўтарытэт Еўрапейскай Міжпарламенцкай Асамблеі Праваслаўя. Яе члены актыўна ўдзельнічаюць у міжнародным жыцці, імкнуцца мэтанакіравана ўплываць на рашэнне розных эканамічных, палітычных і сацыяльных праблем.**

**І ўсё ж у многіх людзей узнікае пытанне: што гэта за ЕМАП?**

ЕЎРАПЕЙСКАЯ Міжпарламенцкая Асамблея Праваслаўя (ЕМАП) — еўрапейская палітычная парламенцкая арганізацыя, якая аб'ядноўвае парламентарыяў краін, дзе ёсць праваслаўнае насельніцтва. Ініцыятарам стварэння ЕМАП стала ў 1993 годзе Грэцыя. У састаў Асамблеі цяпер уваходзяць Арменія, Беларусь, Грэцыя, Грузія, Кіпр, Латвія, Літва, Малдавія, Польшча, Расія, Румынія, Славакія, Югаславія, Украіна, Фінляндыя і Эстонія.

Мэты Асамблеі — актывізацыя міратворчых намаганняў праваслаўнага насельніцтва Еўропы, пераадоленне міжканфесіянальных супярэчнасцей, знаходжанне гарманічных сродкаў культурнага і духоўнага супрацоўніцтва ўсіх народаў кантынента ў садзейнічанні пашырэнню кантактаў паміж палітычнымі, парламенцкімі, царкоўнымі, навуковымі і духоўнымі дзеячамі і арганізацыямі як у справе развіцця праваслаўнага культурнага насельніцтва, так і яго ўкладу ў вырашэнне сучасных праблем правоў чалавека і мірнага суіснавання народаў, актывізацыя дзейнасці па пошуку вырашэнняў найбольш актуальных праблем сучаснага еўрапейскага грамадства.

Вышэйшым органам Асамблеі з'яўляецца канферэнцыя, якая збіраецца раз у год. Чарговае пасяджэнне адбылося 7—10 чэрвеня ў Сафіі (Балгарыя). У ім прыняла ўдзел і дэлегацыя беларускага парламента. Тэма сесіі: «Сацыяльная дзейнасць праваслаўнай грамадскасці». Парламентарыі абмяркавалі праблемы беднасці, беспрацоўя, голаду, расслаення грамадства на бедных і багатых, намецілі некаторыя сумесныя меры выхаду з крызісу. Беларуская дэлегацыя сустрэлася з дэпутатамі ўсіх прадстаўленых на сесіі парламентаў, абмеркавала праблемы, што стаяць перад нашымі краінамі, заручылася іх падтрымкай. Кіраўнік дэлегацыі выступіў на сесіі з дакладам.

Пастаянна дзеючым органам ЕМАП з'яўляецца Сакратарыят. Генеральным сакратаром выбраны дэпутат Грэчаскага парламента Канстанцінас Папанайоту, старшынёй — старшыня Камітэта Расійскай думы па сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Віктар Зоркальцаў, членамі сакратарыята — Васіліс Карахаіс (Грэцыя), Алена Міленава (Балгарыя), Эміль Роман (Румынія), Уладзімір Кулініч (Украіна) і ўпершыню прадстаўнік Беларусі.

Створаны пяць камісій ЕМАП — фінансавая, па рэгламенту, па правах чалавека, па сацыяльнай дзейнасці, па адукацыі і асвеце. Яны будуць арганізоўваць і каардынаваць дзейнасць парламентарыяў ЕМАП па законатворчасці, аказваць адзін аднаму неабходную дапамогу. Важным і неабходным з'яўляецца і імкненне парламентарыяў стварыць пакет законапраектаў розных краін, выкарыстаць ужо набыты вопыт у іншых краінах. Нам, напрыклад, абяцана дапамога польскіх дэпутатаў у справе ўстанаўлення ў Беларусі інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека.

ЕМАП прыняла рэзалюцыю па становішчу ў Югаславіі, па ўзаемаадносінах Грэцыі і Турцыі, намеціла план работы на 1996—1997 гг. Будзе старанна прааналізавана экалагічная сітуацыя ў краінах — членах ЕМАП. Меры па абароне прыроднага асяроддзя будуць абмеркаваны на чарговай сесіі ЕМАП у 1997 годзе.

**Ігар КАТЛЯРОЎ —**
**старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі, член Сакратарыята Еўрапейскай Міжпарламенцкай Асамблеі Праваслаўя.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ШТО НАМ КАШТУЕ ЗАРАЗ ДОМ ПАБУДАВАЦЬ?

**Памятаеце, было некалі абяцанне, што зрабілася амаль легендарным: кожнаму жадаючаму да 2000 года будзе прадастаўлена ўласная кватэра. Але час ідзе, і ніякіх кватэр многія пакуль і бачыць не бачылі.**

Ды што там кватэра, будаўнічых матэрыялаў набыць проста немагчыма, бо каштуюць яны неймаверна дорага. Чаму ж так адбываецца? Напэўна таму, што, з-за скарачэння інвестыцыйнай актыўнасці і недастатковага выкарыстання вытворчага патэнцыялу цэны на будаўнічыя матэрыялы ўзлятаюць да астранамічных вышынь. І склады прадпрыемстваў, якія вырабляюць цэглу і цэмент, а таксама іншыя патрэбныя для будаўніцтва рэчы, стаяць перагружаныя. А цэны тым часам скачуць яшчэ вышэй. З гэтага становішча ўсё ж існуе выйсце праз развіццё фірменнага гандлю і праз павелічэнне экспарту на знешні рынак. Менавіта разгляду гэтых неабходнейшых пытанняў была прысвечана нарада-семінар, што адбылася нядаўна ў Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва.

Аказваецца, усё ж можна прадаваць танней тую ж самую цэглу! Міністэрства гандлю яшчэ ў красавіку бягучага года распрацавала тыпавое палажэнне аб фірменным магазіне прадпрыемства (аб'яднання), якое выйшла ў адпаведнасці з указам Прэзідэнта. Адной з асноўных задач фірменнага магазіна з'яўляецца рэалізацыя прадукцыі, выробленай непасрэдна заснавальнікам магазіна. У гэтым працэсе вырашаецца праблема збыту і набыцця неабходных будматэрыялаў.

На нарадзе вырашалася і пытанне аб рэкламе.

— Зараз на рынку пануе не той, — адзначыў генеральны дырэктар інфармацыйнага прадпрыемства «Хелмон» Аляксандр Прыліпка, — хто мае поўныя кішэні грошай, а той, хто трохі «раскідвае мазгамі». На змену грашовым мяхам прыходзяць прафесіяналы, што маюць канкрэтныя веды аб пэўным рынку збыту пэўнай прадукцыі...

Напрыканцы былі зацверджаны рэкамендацыі, неабходныя для большага насычэння рынку рэспублікі будаўнічымі матэрыяламі, канструкцыямі і іншымі таварамі народнага спажывання. Будзем спадзявацца, што стары кліч наконт уласнай кватэры кожнаму жадаючаму на парозе трэцяга тысячагоддзя можа спраўдзіцца.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 25 (44)


## «Белрос ІК» — міжнародны беларуска-расійскі кансорцыум

**Зараз стварэнне кансорцыума знаходзіцца ў завяршальнай стадыі. Ужо складзены папярэдні спіс членаў «Белрос ІК» ці, інакш кажучы, Беларуска-расійскай інтэграцыйнай карпарацыі.**

Яе з'яўленне выклікана многімі аб'ектыўнымі прычынамі. Сярод галоўных — паступовы, хаця і доўгаваты пераход эканомікі нашай краіны на рыначныя рэйкі. У сувязі з гэтым значна ўзрастаюць роля і значэнне ўстанаўлення сувязей паміж вытворцамі розных краін праз іх новыя добраахвотныя саюзы. Напрыклад, Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыяй (БНПА) і Расійскім саюзам прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў (РСПП). З гэтай нагоды перспектыўным абяцае стаць «Белрос ІК».

— Кансорцыум уяўляе сабой кангламерат ці групу юрыдычна-самастойных суб'ектаў гаспадарання, якія арыентаваны на інтэнсіфікацыю і паглыбленне вытворчага, інвестыцыйнага і гандлёвага супрацоўніцтва прадпрыемстваў розных формаў уласнасці Беларусі і Расіі. Дыяпазон іх узаемадзеяння мяркуецца зрабіць вельмі шырокім — ад звычайнай рэалізацыі тавараў і паслуг да стварэння эфектыўных сумесных беларуска-расійскіх вытворчасцей і фінансава-прамысловых груп, — гаворыць прэзідэнт БНПА Міхаіл Лаўрыновіч.

Калі меркаваць нават па папярэдняму спісу ўдзельнікаў кансорцыума (ён адкрыты да далучэння), то тут збіраецца даволі салідная кампанія. Плануецца ў хуткім часе адкрыць рэгіянальныя прадстаўніцтвы «Белрос ІК» у Брэсце, Гомелі, Оршы, Маладзечне, Бабруйску, Ваўкавыску.

— Мы ставім перад сабой мэту забяспечыць стратэгічнае і тактычнае планаванне і рэалізацыю як перспектыўных міждзяржаўных, так і аператыўных задач ці канкрэтных заказаў, інвестыцыйных, вытворчых, фінансавых бізнес-камбінацый у першую чаргу ў інтарэсах прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у нашу асацыяцыю, — расказвае генеральны дырэктар БНПА Мікалай Стральцоў.

А галоўнай кіруючай кампаніяй кансорцыума вызначана член БНПА ТАА «Інаўтамаркет» — маладая, але салідная, энергічная і шматабяцаючая ў дзелавым плане фірма. Яе дырэктар Канстанцін Іваноў лічыць ідэю стварэння кансорцыума цікавай і перспектыўнай. Яе рэалізацыя, на яго думку, можа прынесці ўдзельнікам «Белрос ІК» дадатковую выгаду, станоўча адаб'ецца на іх іміджы.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**



## КОЛЬКАСЦЬ ФІРМАЎ, ХУТЧЭЙ ЗА УСЁ, ЗМЕНШЫЦЦА

**У Мінску цяпер дзейнічаюць сто тысяч суб'ектаў гаспадарання. Сорак тысяч з іх — прадпрыемствы і фірмы, астатнія — прадпрымальнікі без утварэння юрыдычнай асобы. Паводле ацэнкі старшыні камісіі па эканамічнаму развіццю і бюджэту Мінгарвыканкома Уладзіміра Карагіна, больш чым 20 працэнтаў з гэтай колькасці не пройдуць перарэгістрацыю, паколькі «існуюць выключна на паперы».**

— Мы спадзяёмся, што ўсе «жывыя» прадпрыемствы — вытворцы тавараў і паслуг — пройдуць гэты працэс нармальна і не спыняць сваёй дзейнасці, — сказаў карэспандэнту БЕЛТА Уладзімір Карагін. — Каб дапамагчы ім, Мінгарвыканком сумесна з Недзяржаўнай акадэміяй прадпрымальніцтва і парламентарызму, а таксама цэнтрам падтрымкі прадпрымальніцтва «Цэнтр — XXI стагоддзе» арганізуюць спецыяльныя семінары. Гэта дасць магчымасць многім фірмам прывесці ў парадак свае справы і лёгка абысці «падводныя камяні», з якімі яны могуць сутыкнуцца пры гэтай акцыі, адрэгуляваць узаемадзеянні з падатковай інспекцыяй, органамі статыстыкі, арэндадаўцамі.

Семінары будуць праходзіць па панядзелках на працягу ўсяго працэсу перарэгістрацыі.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## Цікавае знаёмства: часопіс «ПАДАРОЖНІК»

**У шэрагу беларускіх выданняў з'явілася новая назва «Падарожнік». Гэтак рамантычна называецца штомесячны навукова-мастацкі і практычны часопіс.**

Нават просты пералік рубрык часопіса — «Пяць кантынентаў», «Знакамітыя паркі, вадаспады, рэкі, горы», «Карты з архіваў», «Каляндар прыроды», «Як стаць турыстам», «Мастацтва выжывання», «Тайны мінералаў і самацветаў» — сведчыць аб тым, што часопіс зацікавіць самую шырокую чытацкую аўдыторыю.

Часопіс будзе змяшчаць матэрыялы як на беларускай, так і на рускай мове. Асабліва ж трэба адзначыць спецыяльны ўкладыш «Наш край» — мемарыяльны працяг аднайменнага часопіса, што выдаваўся ў Беларусі ў 30-я гады пад эгідай Цэнтральнага бюро краязнаўства. Плануецца выдаваць дадаткі да часопіса: «Бібліятэчка турыста», «Бібліятэчка краязнаўца», «Беларусь. Атлас турыста».

«Падарожнік» спадзяецца аказваць практычную дапамогу краязнаўцам, турыстам, вандроўнікам. Гэтай мэце паспрыяе выдатная паліграфічная база заснавальніка часопіса — фірмы «Арты-Фэкс», якая спецыялізуецца на выданні старажытных і сучасных картаў, атласаў і даведнікаў.

Рэдкалегія часопіса, пад кіраўніцтвам прафесара Льва Казлова запрашае да супрацоўніцтва ўсіх чытачоў «Звязды», якія маюць што расказаць пра сваю Радзіму, пра свае прыгоды. Напрыклад, у першым нумары «Падарожніка» чытачы знойдуць артыкулы пра першыя аўтамабілі на Беларусі, пра часопіс «Наш край», пра «бацькоў» картаграфіі, пра новую экспедыцыю на Гімалаі.

**Чакаюць матэрыялы па адрасу рэдакцыі: 220072, Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, п. 130. Дарэчы, у рэдакцыі можна аформіць падпіску на другое паўгоддзе бягучага года. Індэкс выдання — 74973.**

У добры шлях, «Падарожнік»!

**Ігар БАЖЭНАЎ.**

### ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

### ПРАДАЕЦЦА

- ЗАЗ-968 М, 85 г. в.
- «Форд-Экскорт» 1,3 л, 83 г. в. Тэл. 58-86-79 Дзмітрый.
- Драўляны дом, участак у г. Рэчыца, вул. Фрунзе, 21. Тэлефанаваць: г. Гомель, тэл. (8-0232) 44-81-26, г. Мінск, тэл. (017) 239-37-34.
- Кухня, вытворчасці Італія. Тэл. у Мінску 246-19-92.
- Хата, хлявы (можна на знос) у в. Слягла Вілейскага раёна, маецца сад, склеп, агарод. Звяртацца: Мінская вобл. Вілейскі раён, в. Любань, Мартынюк Л. І. тэл. 45-4-44.
- Тэрмінова УАЗ-469 «Б» 87 г. в. зняты з учоту, у добрым стане за 2500$. Можна таргавацца. Тэл. (8-272) 58-2-90.
- Хату пад дачу ў в. Закрашынскі Мох, 4 км ад станцыі Васілевічы (гаспадарчыя пабудовы, сад). Нядорага. Тэл. (240) 90-6-86; 34-5-93.
- Матацыкл «Днепр-11» нядорага або мяняецца. Тэл. у Мінску 233-02-78, 233-39-27.
- Дача ў Дзяржынскім раёне, прыпынак электрычкі «Мезінаўка», 60 км ад Мінска. Тэл. (8-216) 4-62-57.
- Кватэра 2-пакаёвая ў г. Бяроза Брэсцкай вобл., усе выгоды, тэлефон, або мяняю на г. Слуцк. Тэл. Мінску 254-67-92.
- Трактар ДТ-75, новы; сейф для зброі 20$; паддоны для цэглы. Тэл. 294-66-17.
- Дача 50 км ад Мінска, электрычка Раўнаполле, вада, святло або мяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Гродне. Тэл. (8-01522) 22-4-80.
- Швейная машына вытворчасці Італія, танна. Тэл. у Мінску 260-22-02.
- Касцюм спартыўны (Фінляндыя), размер 56. Тэл. 239-67-98.
- Новы зруб 7,5х9, малады конь 1 год 3 месяцы. Тэл. у Глуску 32-4-96.
- Новы пярэдні бампер да аўтамабіля М-2141, нядорага. Тэл. 260-22-02.
- Духі «Кліма», «Чорная магія», дэзадарант «Чорная магія» — (усё Францыя). Тэл. 239-67-98.
- Прычэп да УАЗ-3152 — 400$, тэнт, аўташыны і іншыя запчасткі. Тэл. Воранава Гродзенскай вобл. 22-4-94, 21-9-94.
- Камплект часопісаў «Охота и охотхозяйство» 486 шт. за 1951—1993 гг. і паляўнічая літаратура. Тэл. (8-292) 59-6-75 .
- Дом у г. Дзятлава Гродзенскай вобл., ёсць газ, сад, 25 сотак зямлі, прыбудовы. Тэл. Дзятлаўскага раёна 43-3-52.

### РОЗНАЕ

- Матэматыка, кансультацыі. Тэл. 271-80-98.
- Праекты: трохфазных уводаў, электраацяплення дамоў, электракацельняў, ацяплення, вентыляцыі. Тэл. у Віцебску 5-04-54.
- Куплю брызент (можна б/к). Тэл. (017) 265-66-14.
- Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Слоніме на Мінск або Стоўбцы. Тэл. у Слоніме 2-32-52.
- Куплю: медна-фосфарны прыпой (для газазваркі). Прадам электраліт шчалачны АКБ 34ТНЖ 300. Тэл. у Слуцку (8-01795) 2-27-10 з 9 да 17 гадзін.
- Абмен-продаж кватэры ў Крыме (Джанкой), 2-пакаёвая. Тэл. у Мінску 270-71-87 у 19 гадзін.
- Мяняю 2-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў Ваўкавыску на раўназначную ў Лунінцы Брэсцкай вобл. Тэл. у Ваўкавыску 2-01-27, у Лунінцы 2-23-08.

## ДВА ГАДЫ ПАЧАКАЙ

Два гады з моманту рэгістрацыі давядзецца чакаць банкам, якія будуць утвораны, каб мець магчымасць прыцягваць грошы насельніцтва. Такое рашэнне нядаўна прынята Нацыянальным банкам Беларусі. Відавочна, што выклікана яно жаданнем абараніць нашы грошы ад махляроў і звычайнага непрафесіяналізму фінансістаў. Думаецца, два гады тэрмін дастатковы, каб зразумець што ўяўляе з сябе новы банк і ці варта давяраць яму свае «кроўныя».

Да таго ж гэтае рашэнне ляжыць у рэчышчы уніфікацыі нарматыўнай базы Беларусі з Расіяй, дзе такая норма ўжо дзейнічае.

**Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.**

### Аляксандр КУЧЫНСКІ:

# «ТОЛЬКІ ПРАГРЭСІЎНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ ЗАБЯСПЕЧАЦЬ ВЫХАД З КРЫЗІСУ»



Галоўны інжынер Іван БЯЛЕВІЧ і галоўны тэхнолаг Генадзь ГЕРЧЫКАЎ.



Галоўны бухгалтар Марыя ЦЫКУНОВА.



Канструктар Пётр НАЛЕЦКІ.



У цэху зборкі вентыльных электрарухавікоў.



Дырэктар завода Аляксандр КУЧЫНСКІ.

-ЯК І БОЛЬШАСЦЬ прадпрыемстваў рэспублікі, развал былога Саюза вельмі балюча сцебануў па эканоміцы завода, — гаворыць Аляксандр Фядосавіч. — У свой час наша прадпрыемства спецыялізавалася ў сістэме аграпрамысловага комплексу СССР па распрацоўцы новых тэхналагічных працэсаў і тэхналагічнага абсталявання па рамонту аўтатрактарнага электраабсталявання. Мы мелі трывалыя сувязі практычна з усімі навукова-даследчымі інстытутамі рамонтнага профілю. Былі заказы, пастаянны рынак збыту, неабходныя фінансавыя ўліванні. І раптам абарваліся ранейшыя сувязі, і ўсё парушылася. У такой няпростай сітуацыі мы прынялі адзіна правільнае рашэнне: наладзіць рамонт усіх відаў электрарухавікоў, якія выкарыстоўваюцца ў народнай гаспадарцы і ў быце. Пайшлі заказы, удалося не толькі спыніць спад вытворчасці, але і стабілізаваць яе. Ва ўсякім выпадку, ужо ў 1994 годзе па аб'ёму вытворчасці выйшлі на рубеж 1990-га года. Наладзілі рамонт сілавога электраабсталявання (электраматораў практычна ўсіх марак айчыннай і замежнай вытворчасці магутнасцю да 250 кілават). У дадатак на прадпрыемстве маецца неабходны падменны фонд. Рамантуем таксама трансфарматары, машынныя генератары, электраабсталяванне для аўтамабіляў і трактароў усіх марак незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і формаў уласнасці.

Улічваючы тое, што рамонтная вытворчасць абмяжоўваецца пэўнымі рэгіянальнымі рамкамі (вазіць на рамонт вырабы за тысячы вёрст — нязручна), мы ўзялі крэн на выпуск новай прадукцыі, і ў першую чаргу — выраб вентыльных электрапрывадаў (электрарухавікоў).

**— У чым іх навізна? Што дасць народнай гаспадарцы, заводу пераход на выпуск новай прадукцыі?**

— Сярод усіх вядомых электрамеханічных пераўтваральнікаў энергіі найбольш перспектыўнымі з'яўляюцца бясшчоткавыя рухавікі пастаяннага току (вентыльныя рухавікі), якія выдатна зарэкамендавалі сябе ў апаратуры спецыяльнага прызначэння, у складаных бытавых электрапрыборах, у механізмах прамысловага прызначэння. Яны імкліва выцясняюць традыцыйныя (калектарныя, асінхронныя і г. д.) з прамысловасці і бытавой тэхнікі. Вентыльныя рухавікі, дзякуючы высокай надзейнасці, выключнай гібкасці ў кіраванні, эканамічнасці з'яўляюцца перспектыўнымі для стварэння сістэм прэцызійнага электрапрываду, якія шырока выкарыстоўваюцца ў робататэхніцы, станках з лічбавым праграмным кіраваннем (ЛПК), у вымяральнай тэхніцы, апаратах запісу і ўзнаўлення інфармацыі. Вентыльныя рухавікі вызначаюцца выключнай надзейнасцю — гарантыя бесперапыннай работы дасягае 100.000 гадзін (разоў у дзесяць вышэйшая, чым у звычайных электрарухавікоў), адсутнасцю акустычных і радыёперашкод, экалагічнасцю эксплуатацыі, тэхналагічнасцю вырабу, магчымасцю атрымання высокай частаты вярчэння. Іх выкарыстанне забяспечвае значную (да 20 працэнтаў) эканомію электраэнергіі. Яшчэ ў шасцідзесятых гадах практычна ўсе вядучыя электратэхнічныя фірмы свету («Бош», «Сіменс», «Інланд») вялікую ўвагу надавалі вытворчасці вентыльных рухавікоў. І ў ЗША вентыльныя рухавікі ў агульным аб'ёме электрарухавікоў яшчэ ў 1991 годзе займалі 28,4 працэнта. У той жа час ні ў былым СССР, ні ў краінах СНД дасюль не наладжана іх серыйная вытворчасць. Разам з тым на Мінскім доследным электрарамонтным заводзе ёсць усе магчымасці для распрацоўкі і асваення вытворчасці вентыльных электрарухавікоў. Пры гадавым выпуску аднаго мільёна такіх рухавікоў эканоміцца каля 4 тысяч тон сталі, прыкладна 150 тон медзі. Іх выкарыстанне дае значную эканомію электраэнергіі. Калі б, скажам, удалося ўстанавіць вентыльныя электрарухавікі ў кампрэсарах халадзільнікаў, якія выкарыстоўваюцца толькі ў Мінску, то гэта дазволіла б эканоміць штогод да 50 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. Да таго ж нашы доследныя ўзоры вентыльных рухавікоў не толькі нічым не ўступаюць аналагічным заходнім, але і намнога таннейшыя за іх. Ужо сёння ў рэспубліцы павышаная цікавасць да новых электрарухавікоў. У прыватнасці, падпісаны пратаколы намераў на іх выкарыстанне ў аўтамабілебудаванні (БелАЗ), станкабудаванні (заводы імя Кірава, Кастрычніцкай рэвалюцыі), ажыццяўляюцца іх пастаўкі ў Расію для вытворчасці пыласосаў і машын для мыцця падлогі. Есць распрацоўкі з прадпрыемствамі СНД на пастаўкі туды вентыльных электрарухавікоў для выпуску пральных машын. Практычна неабмежаваныя магчымасці для іх выкарыстання і пры выпуску цэлай гамы фермерскага абсталявання: сепаратараў, маслабоек, кармарэзак, млыноў са здымнымі рабочымі органамі і інструментам. Адно з мінскіх прадпрыемстваў мае намер скарыстаць іх пры выпуску самарухальных інвалідных калясак. Проста незаменныя яны і пры вытворчасці станкоў для дрэваапрацоўчай прамысловасці, дзе цэніцца менавіта хуткасць абаротаў — важны фактар для забеспячэння чысціні апрацоўкі драўлянай паверхні. Словам, толькі прагрэсіўныя тэхналогіі забяспечаць выхад з крызісу. Іншага шляху няма.

**— Наколькі вядома, вас у пэўнай ступені стрымліваюць вытворчыя магутнасці. Што робіцца па іх расшырэнню?**

— Сапраўды, у раёне Калядзіцкага прамвузла па сутнасці пабудаваны ўжо новы завод. Ва ўсякім разе завершана будаўніцтва самога аб'екта, інжынерных сетак і каналізацыі. Цяпер вядзецца мантаж абсталявання. Пры поўным асваенні праектнай магутнасці прыкладна да двухтысячнага года прадпрыемства амаль патроіць выпуск прадукцыі і давядзе яго да 2,8 мільёна долараў у год. Апрача дадатковых рабочых месцаў і значных грашовых паступленняў у падатак плануецца атрымліваць штогод каля 600 тысяч долараў прыбытку. Але для асваення новай вытворчасці неабходна сучаснае тэхналагічнае абсталяванне. А гэта каля мільёна долараў. На жаль, такіх грошай няма ні ў дзяржавы, ні ў калектыва.

**— А як жа замежныя інвестары? Справа ж перспектыўная. І яны праяўляюць цікаваць да вентыльных рухавікоў.**

— Усё ўпіраецца ў форму ўласнасці. Замежныя інвестары адмаўляюцца ўкладваць сродкі ў дзяржаўныя прадпрыемствы. Наадрэз. Праўда, і мы не сядзім склаўшы рукі. Яшчэ ў сакавіку 1995 года на агульным сходзе працаўнікоў прадпрыемства было прынята рашэнне аб акцыянiраванні завода. У адпаведнасці з планам Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання ў тым жа 1995 годзе наш завод быў уключаны ў пералік прадпрыемстваў на акцыяніраванне. Аднак канчатковае рашэнне на гэта было прынята толькі ў самым канцы года. 30 снежня Мінскі гарадскі камітэт па прыватызацыі падпісаў загад аб стварэнні акцыянернага таварыства «Электрарамонтны завод». Аднак статут акцыянернага таварыства не зарэгістраваны і па сённяшні дзень у Мінскім гарвыканкоме. Валакіта працягваецца. Пры такіх адносінах да справы нашы патэнцыяльныя інвестары наогул адмахнуцца. У выніку дзяржава, калектыў, уся народная гаспадарка панясуць страты, якія ніколі і нічым не папоўніць. Лічу, што калі чалавек стане сапраўдным гаспадаром на вытворчасці, толькі тады можна разлічваць на рэальныя зрухі ў эканоміцы.

**Матэрыялы выпуску падрыхтавалі Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**



## ТЭХНІЧНЫЯ ДАНЫЯ ЭЛЕКТРАРУХАВІКОЎ

| ПАРАМЕТРЫ | ТЫП ЭЛЕКТРАРУХАВІКА | | | | | | | | | | | | * | * | * | * |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ДБ80-30-3 | ДБ80-120-6 | ДБ80-60-3 | ДБ80-180-6 | ДБ110-250-2,5 | ДБ80-120-12 | ДБ80-250-12 | ДБ80-370-12 | ДБ110-250-12 | ДБ110-370-12 | ДБ110-550-12 | ДБ110-750-12 | ДБ71 1,1-6 | ДБ80-1,5-6 | ДБ80-2,5-6 | ДБ100-4,0-6 |
| Намінальная магутнасць, Вт | 30 | 120 | 60 | 180 | 250 | 120 | 250 | 370 | 250 | 370 | 550 | 750 | 1100 | 1500 | 2500 | 4000 |
| Намінальная частата вярчэння, аб/хвіл. | 3000 | 6000 | 3000 - | 6000 | 2500 | 12000 | 12000 | 12000 | 12000 4600 720 | 12000 | 12000 (6000) | 12000 (6000) | 6000 | 6000 | 6000 | 6000 |
| Напружанне сілкавання, В | =12 | =24 | =24 | =24 | =24 | ~220 | ~220 | ~220 | ~220 | ~220 | ~220 | ~220 | ~380 | ~380 | ~380 | ~380 |
| Тып выкарыстоўваемага камутатара | КБД-15 | КБД-25 | КБД-15 | КБД-15 | КБД-24-40 | КВД-0,37 | КВД-0,37 | КВД-0,37 | КВД-0,37 | КВД-0,37 | КВД-1,0 | КВД-1,0 | КБД | КБД | КБД | КБД |
| Кошт камплекта (камутатар+рухавік) USD | 120 | 120 | 140 | 140 | 140 | 150 | 200 | 200 | 180 | 200 | 300 | 350 | 400 | 400 | 400 | 400 |

# У бліжэйшы час агульная лічба запазычанасці па выплаце заработнай платы меншай не стане. Таму ў прафсаюзаў зараз няма падстаў для аптымізму...

***Наш карэспандэнт звярнуўся да загадчыка сацыяльна-эканамічнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь Івана Мацвеевіча ГУРСКАГА.***

**— ІВАН МАЦВЕЕВІЧ, калі ўпершыню загучалі трывожныя сігналы з выплатай заробку?**

— Бадай, з пачатку бягучага года пачаўся своеасаблівы абвал... Калі летась маглі быць нейкія разавыя нявыплаты, то зараз працэс стаў паўсюдным. Дзесьці ў студзені агульная лічба запазычанасці складала 600 мільярдаў, а на першага ліпеня — 978! Бачыце, які адбыўся страшэнны скачок. Зімою мы яшчэ мелі падставы гаварыць аб змяншэнні вясной-летам затрат на энергарэсурсы і скарачэнні росту запазычанасці. На дадзены момант у прафсаюзаў проста няма падстаў для аптымізму. Прагнозы, канечне, справа няўдзячная, але магу з упэўненасцю зазначыць — у бліжэйшы час агульная лічба запазычанасці меншай не стане. І праблема будзе заставацца надзвычай вострай. На асобных прадпрыемствах людзі не атрымлівалі заробак два-тры апошнія месяцы. Трэба прымаць кардынальныя меры. Тыя разавыя выплаты (на 8 сакавіка і ў пачатку мая) агульнага становішча не мяняюць, і праблема застаецца нявырашанай.

**— І якую ж пазіцыю займае Федэрацыя прафсаюзаў?**

— Пытаннямі сацыяльна-эканамічнага плана мы займаемся пастаянна. Не існуе гатовых рэцэптаў для іх вырашэння, патрэбен комплекс мераў. Федэрацыя прафсаюзаў выступае ў якасці ініцыятара на пачатку пераўтварэнняў у самых розных галінах народнай гаспадаркі, неаднаразова звяртаючыся з прапановамі да ўрада, Прэзідэнта, да іншых суб'ектаў выканаўчай і заканадаўчай уладаў. Мы павінны не толькі ўносіць канкрэтныя прапановы (якія, да слова, распрацоўваем вельмі старанна і ўзважана), але і выконваць так званы баланс інтарэсаў. Каб усім было добра. Але дабрату гэту трэба разумець не ў маральным плане, а ў плане паляпшэння сітуацыі для развіцця вытворчасці. Не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што існуюць прадпрыемствы, прадукцыя якіх адразу трапляе прама на склад. «Калі б я не працаваў, — гаварыў мне аднойчы дырэктар аднаго з такіх заводаў, — я б прынёс менш шкоды, чым у выпадку, калі я працую такім вось чынам». Ці ж гэта вытворчасць? Але ў кожным выпадку канкрэтныя рашэнні павінны прымаць кампетэнтныя ўстановы. Справа ж прафсаюзаў — ініцыіраваць працэс, прыцягнуць увагу, прапанаваць. Напрыклад, з той жа зарплатай — доўгі час існуе спецыяльная пастанова ўрада, па якой прадпрыемствы са сродкаў, што паступаюць на іх разліковы рахунак, маюць права рэзерваваць частку для выплаты заработнай платы. Чаму б тым жа заводам ёй не карыстацца?

**— Прафсаюз ініцыіруе, урад — рэагуе... Ці атрымліваецца такі вось ідэальны ланцужок?**

— Пра гэткі ланцужок гаворкі пакуль няма... Але ж і сказаць, што ўрад не рэагуе, таксама нельга. Дзесьці гады тры таму, калі вырашаліся нейкія пытанні, некаторыя члены ўрада казалі: «Чаго гэта мы павінны ўзгадняць нешта з прафсаюзамі, хто яны такія?» Зараз да прафсаюзаў пачалі прыслухоўвацца, пачалі размаўляць на роўных, на карысць абодвум бакам. У канцы мінулага года да нас прыязджаў прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, адбылася грунтоўная сур'ёзная размова па асноўных пытаннях. Зараз паміж прафсаюзамі і ўладамі распрацоўваецца нядрэнны механізм узаемадзеяння, які атрымаў назву сацыяльнага партнёрства. Створаны Нацыянальны Савет, дзе прадстаўлены ўсе тры бакі — наймальнік, прафсаюзы і ўрад. Такім чынам можна вырашаць шмат балючых пытанняў. Хутка адбудзецца чарговае пасяджэнне Нацыянальнага Савета, куды вынесена пытанне аб выплаце заробку настаўнікам.

**— Чаму менавіта настаўнікам? Зыходзячы з вялікай сумы запазычанасці ім?**

— Пытанне ўзняў галіновы прафесіянальны саюз работнікаў адукацыі. Федэрацыя падтрымала, вось і будуць яго разглядаць зараз у Нацыянальным Савеце. А што тычыцца сумы запазычанасці, то па настаўніцкай зарплаце яна складае 39,6 мільярда. Лічба была вышэй і толькі дзякуючы прынятым апошнім часам мерам удалося неяк стабілізаваць сітуацыю. Таксама знізілася запазычанасць медыцынскім работнікам з 92,8 да 10 мільярдаў. Самая вялікая зараз запазычанасць у сельскай гаспадарцы — 446 мільёнаў. І гэта пры тым, што менавіта ў гэтай галіне адна з самых нізкіх заработных плат — у сярэднім каля сямісот тысяч. Уяўляеце, колькі чалавек не атрымала грошай!

**— А дзе самыя нізкія заробкі?**

— Акрамя сельскай гаспадаркі гэта яшчэ сацыяльнае забеспячэнне — 643 тысячы рублёў сярэдні заробак, культура — 896, мастацтва — 780, гандаль — 970. Таксама невысокая заработная плата ў настаўнікаў — 976, у сферы аховы здароўя — 1.085 тысяч. У прамысловасці сярэдні заробак роўны 1.287 тысячам. Самыя высокааплатныя — банкіры, якія зарабляюць у сярэднім 2.283 тысячы. А калі наогул, то сярэдні заробак людзей, занятых у народнай гаспадарцы, складае 1.132 тысячы...

**— І можна зрабіць вывад аб тым, што краіна зарабляе толькі на самае неабходнае?**

— Так, мінімальны спажывецкі бюджэт складае 1.063.907 рублёў. Калі і раней мы жылі небагата, то зараз наш сацыяльны статус — рэспубліка жабракоў, як гэта ні горка казаць. Шмат людзей атрымліваюць зарплату роўную так званаму пражытачнаму мінімуму, які складае 60 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту.

У канцы мінулага года былі заключаны генеральныя пагадненні паміж урадам, наймальнікамі і прафсаюзамі, у адпаведнасці з якімі тарыфная стаўка першага разраду павінна зараз быць дзесьці на ўзроўні 130 тысяч, а мінімальная заработная плата — 120. Усе мы разумеем, называючы такія нерэальна маленькія сумы, што пражыць на 120 тысяч немагчыма. У ідэале стаўка першага разраду павінна быць роўнай мінімальнаму спажывецкаму бюджэту. Толькі тады можна будзе нешта гаварыць аб набліжэнні эры сацыяльнай справядлівасці. Пра што зараз гаварыць якраз і не прыходзіцца. Ну, а забастоўка? Забастоўка, канечне, самы апошні метад барацьбы за свае правы. Але што ж будзе рабіць працоўным увосень (менавіта тады чакаецца абвастрэнне актыўнасці), калі на заводзе ні заробкам, ні нават працай іх забяспечыць не змогуць. У прафсаюзаў яны, вядома, будуць шукаць ахоўнікаў сваіх інтарэсаў, прафсаюзы і павінны з'яўляцца такімі. А што мы зможам адказаць працоўным? Дай Бог, каб сітуацыя змянілася ў лепшы бок, каб усе прапановы з боку Федэрацыі прафсаюзаў не аказаліся «марным лямантам у пустыні».

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# Беларуская пажарная машына ставіцца на паток

**Да серыйнай вытворчасці пажарных машын прыступілі на заводзе «Белкамунмаш».**

Першая пажарная машына, якая мае высокую праходнасць і можа выкарыстоўвацца як у горадзе, так і ў лясных масівах, была выраблена год назад і зараз эксплуатуецца ў Лельчыцкім лясгасе. Міністэрства лясной гаспадаркі рэспублікі зрабіла заказ яшчэ на пяць машын, якія плануецца вырабіць да верасня. Па словах намесніка генеральнага дырэктара ВА «Белкамунмаш» Уладзіміра Балая, жаданне набыць беларускую машыну выказваюць партнёры з Расіі і Узбекістана.

Кошт пажарнай машыны вытворчасці «Белкамунмаш» складае каля 80 тысяч долараў, што значна ніжэй цаны на аналагічную замежную тэхніку. Гэта тлумачыцца тым, што большая частка сыравіны — айчыннай вытворчасці. Жалеза пастаўляюць Жлобінскі і Магілёўскі металургічныя заводы, шасі — Мінскі аўтамабільны і Мінскі трактарны заводы. Разам з тым машына не ўступае еўрапейскім стандартам, бо пастаўку абсталявання для яе ажыццяўляе аўстрыйская фірма «Rosenbauer» — адна з вядучых вытворцаў пажарнай тэхнікі ў свеце. Тым не менш беларускія вытворцы жадаюць скараціць колькасць абсталявання, якое завозіцца з-за мяжы. На прадпрыемстве вядуцца работы па ўдасканаленню вытворчасці лакафарбавага пакрыцця, плануецца прыступіць да вырабу шторных дзвярэй на філіяле завода ў Вілейцы. «Белкамунмаш» можа вырабляць да 100 машын у год.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.48 | 21.39 | 16.51 |
| Віцебск – | 4.30 | 21.37 | 17.07 |
| Магілёў – | 4.38 | 21.28 | 16.50 |
| Гомель – | 4.44 | 21.16 | 16.32 |
| Гродна – | 5.06 | 21.52 | 16.46 |
| Брэст – | 5.14 | 21.45 | 16.31 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 7 ліпеня.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ціхана, Іаана**
**К. Веранікі, Зянона, Адрыяна**

### НАДВОР'Е

Сёння удзень воблачна з праясненнямі, на большай частцы тэрыторыі рэспублікі дажджы з навальніцамі, месцамі дажджы моцныя. Тэмпература паветра ў Гродне — 21—23, Брэсце — 22—24, Мінску — 25—27, Магілёве, Віцебску — 28—30, Гомелі — 30—32. У наступныя двое сутак — пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы, па усходу — з навальніцамі. Тэмпература ўначы 9—14, удзень 19—24 градусы цяпла.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 9 чэрвеня

Надвор'е ў Мінску і Мінскай вобласці будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску, што прывядзе да зніжэння ўтрымання кіслароду ў паветры і фарміравання гіпаксічнага тыпу надвор'я.

У такіх пагодных умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых і хворых сардэчна сасудзістай сістэмы, з захворваннямі сістэмы апорна-рухальнага апарата. У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца знізіць фізічную актыўнасць, часта праветрываць памяшканні, захоўваць дыету, прымаць полівітаміны (асабліва з утрыманнем вітаміна «Е»), прыём прэпаратаў, рэкамендуемых урачом.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, МІНСК!

*(Заканчэнне. Пачатак на 1, 3-й стар.)*

**Асабіста я не бачыў, каб сам Прэзідэнт ці хто-небудзь з членаў урада кульнулі тут куфель-другі піва. Што ж датычыць дзевяноста дзевяці працэнтаў астатняй публікі — частаваліся толькі так. Нагадаю, на тое было не толькі свята горада, але і свята піва «Смага-96», што адбылося тут жа на зялёных берагах Свіслачы. Лепшыя гатункі піва прывезлі на гэта свята беларускія піавары з розных гарадоў, а каб частавацца было весялей — на кожным кроку наладзілі гульні, атракцыёны.**

**Фестываль піва «Смага-96» прайшоў з безумоўным поспехам. Прадугледжана было ўсё: арганізатары запрасілі ўсіх вытворцаў піва, наладзілі продаж, атракцыёны. Указальнікі задавалі кірунак нават да камфартабельных перасоўных прыбіральняў (экалагічна бяспечных і нават араматызаваных). Шкада, што некаторыя з тых прыбіральняў даволі хутка не вытрымалі святочнага націску і спынілі сваю дзейнасць.**

**Што ж, адным не пашчасціла трапіць у жаданую прыбіральню, а іншым — пашчасціла атрымаць прыз за самую забаўную фігуру, выкладзеную з соцень піўных коркаў.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ. (Фота аўтара).**








*«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»: «ВЫРАТАВАННЕ»*

## Генадзь ГРУШАВЫ:

## *«Сумесна са «Звяздою» Беларускі дзіцячы фонд «Дзецям Чарнобыля» імкнецца абудзіць грамадзянскую ініцыятыву беларускага народа. Мы перакананы, што змагацца за лепшую будучыню нашых дзяцей, пераадолець чарнобыльскі лёс нашай Бацькаўшчыны можна толькі ўсёй грамадой...»*



**Амаль што два месяцы правядзення акцыі «Выратаванне» паставілі процьму пытанняў. Рэдакцыя газеты «Звязда», Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» атрымалі каля двухсот лістоў. Часам людзі пісалі двойчы, баючыся, што пошта згубіць іх выплаканыя і выпакутаваныя лісты. Не маўчыць і тэлефон «Звязды» — 268-28-72. Мы ўжо пісалі пра тое, што па многіх лістах прыняты станоўчыя рашэнні. Гэта датычыцца не толькі дзяцей, але і іншай падтрымкі сем'яў. Па атрыманых на сённяшні дзень зваротах — водгуках на акцыю «Выратаванне»— БДФ «Дзецям Чарнобыля» мяркуе толькі на працягу лета з найбольш пацярпеўшых сем'яў адправіць на аздараўленне за мяжу больш за 100 дзяцей. Але ж гэта не значыць, што аўтарам астатніх зваротаў будзе адмоўлена ў дапамозе. Акцыя «Выратаванне» не носіць эпізадычны ці сезонны характар. Фонд будзе імкнуцца падтрымліваць абяздоленых людзей як мага даўжэй. Але чытачы павінны разумець, што гэтая справа робіцца намаганнямі толькі добраахвотнікаў, якія не маюць асобых правоў ці крыніц для дабрачыннасці і не ўсе пытанні яны ў сілах вырашыць. У выпадку, калі лісты з просьбамі аб дапамозе будуць ісці ў рэдакцыю і далей, акцыя «Выратаванне» працягнецца бестэрмінова. Таму, што менавіта для вас, паважаныя падпісчыкі, для вас, нашы сябры, і быў распачаты шлях акцыі «Выратаванне». Мы спадзяёмся, што нашымі чытачамі стануць усе, хто зацікаўлены ў асабістым і грамадскім плёне сумеснай акцыі «Звязды» і БДФ «Дзецям Чарнобыля». Да ўсяго ж астатняга, пастаянна падаючы інфармацыю пра «Выратаванне», мы спадзяёмся на вашы водгукі, на вашу падтрымку і ўдзел у гэтай добрай справе.**

**Каб тэрмінова зняць найбольш вострыя пытанні, якія хвалююць нашых чытачоў, «Звязда» правяла «прамую лінію» з Генадзем Грушавым. За дзве гадзіны старшыні Беларускага дзіцячага фонду «Дзецям Чарнобыля» было зададзена 47 пытанняў, ці правільней — было 47 зваротаў. Усе праблемы, узнятыя ў вашых зваротах, паважаныя чытачы, Генадзь Грушавы занатаваў і паступова разбіраецца, разам з паплечнікамі прымае рашэнне па кожнаму. Часткова запіс «прамой лініі» мы прапануем вашай увазе.**

**— Генадзь Уладзіміравіч?.. Вас турбуе Наталля Міхайлаўна Кучко. Наша школа і вёска знаходзяцца ў Маладзечанскім раёне. Забруджанасць тэрыторыі — ад 1 да 5 кюры. Як толькі пачалася акцыя, я адправіла ліст у дабрачынны фонд з просьбай дапамагчы нашым дзецям прайсці аздараўленне за мяжой. Ці разглядалі вы гэты ліст? Магчыма, патрэбны нейкія новыя звесткі?**

— На сённяшні дзень, Наталля Міхайлаўна, мы атрымалі каля двухсот лістоў. І каб даць грунтоўны, зразумела, адказ — патрэбен час. Калі ж размова ідзе пра канкрэтнае дзіця, калі гэта зварот бацькоў, то мы ў большасці выпадкаў адказваем літаральна адразу. Калі ж пішуць, звяртаюцца з просьбай вырашыць ці дапамагчы вырашыць пытанне па вялікай групе, то тут ужо трэба сур'ёзна рыхтавацца, шукаць шляхі да вырашэння пытання. У адным хацеў бы вас пераканаць — вы абавязкова атрымаеце падрабязны адказ... Фонд, зразумела, не можа адправіць усіх дзяцей летам, тым больш, што шмат часу займае падрыхтоўка дакументаў. Але акцыя «Выратаванне прадоўжыцца. Думаю, што мы знойдзем магчымасць падтрымаць і вашых дзяцей.

**— Дзякуй вам.**

— Дзякуй і вам, што пазванілі. Добра, што знаходзяцца людзі, якія турбуюцца і пра дзяцей, якія побач. Нам усім трэба перамагчы сваю інертнасць, пасіўнасць. І сёння, паверце нам, што сумесна са «Звяздою» Беларускі дзіцячы фонд «Дзецям Чарнобыля» імкнецца абудзіць грамадзянскую ініцыятыву беларускага народа. Мы перакананы, што змагацца за лепшую будучыню нашых дзяцей, пераадолець чарнобыльскі лёс нашай Бацькаўшчыны можна толькі ўсёй грамадой...

**— У мяне (пазваніў мужчына, вельмі неразборліва прагучала яго прозвішча. — Рэд.) трое дзяцей. Дзве дзяўчынкі. Жонка не працуе, ў адной дзяўчынкі павялічана шчытападобная залоза... Ці можаце вы дапамагчы?**

— У вашай сітуацыі абавязкова. Вы маеце ўсе правы на дапамогу. Вы, дарэчы, пісалі нам?

**— Не. Вось толькі даведаўся па радыё пра акцыю і пра «прамую лінію»...**

— Напішыце падрабязнае пісьмо. Раскажыце пра сітуацыю ў сям'і. Які адрас? Вы пытаецеся, куды высылаць пісьмо?.. Калі ласка, на адрас рэдакцыі «Звязды». Мы чакаем вашага ліста.

**— З вёскі Васількі вас турбуюць. Рэчыцкі раён. Хацелі б даведацца, як можна адправіць дзіця на аздараўленне. Як, якім чынам?**

— Пішыце на адрас газеты альбо фонду. Кожны зварот да нас павінен быць персанальным. Спадзяёмся, што вы шчыра раскажаце аб стане здароўя вашых дзяцей. Трэба ж, каб у нас былі падставы прыняць тое альбо іншае рашэнне. Не пашкадуйце часу — раскажыце пра ўсё падрабязна.

**— Генадзь Уладзіміравіч, мы ўжо звярталіся да вас, рыхтавалі да адпраўкі групу старэйшых дзяцей...**

— Ведаеце, нам вельмі цяжка адпраўляць чатырнаццацігадовых і тым больш старэйшых... Трэба лічыцца з жаданнем тых замежных сем'яў, якія прымаюць дзяцей. Кожная з іх разлічвае свае магчымасці і імкненні. Пажадана, каб узрост дзяцей адпавядаў іх бацькоўскім пачуццям. Акрамя таго, дарослыя дзеці паводзяць сябе вельмі самастойна, што не ўсім падабаецца...

**— Мы разумеем таксама. І ўсё ж была надзея, што сёлета нешта атрымаецца. А ўжо і лета да сярэдзіны падыходзіць...**

— Давайце паспрабуем зрабіць наступным чынам. Выберыце з усяе групы некалькі (трохчатырох) дзяцей. Будзем шукаць сем'і для іх. Паглядзім, як нашы пасланцы сябе зарэкамендуюць. Але выберыце такіх, для каго, на ваш погляд, аздараўленне патрэбна ў першую чаргу. Разумею, што выбіраць заўсёды цяжка. І ўсё ж давайце пакуль што выкарыстаем хаця б гэты шанц..

**— Дзякуй вам. Спадзяёмся на вашу падтрымку.**

**— Вас турбуюць з Мінска. У мяне хворае дзіця...**

— Ці звязана гэта з аварыяй на ЧАЭС?

**— Не ведаю. Але ж хвароба ёсць, ад яе нікуды не дзенешся...**

— Добра. Напішыце нам. Лепш на адрас «Звязды». Газета для нас як самы эфектыўны грамадскі кантроль. Але ж толькі, калі ласка, пра ўсё напішыце вельмі дакладна. Паспрабуем дапамагчы.

**— У мяне хворае дзіця. У яе пасля чарнобыльскай аварыі — паталогія абедзвюх нырак. Адна з нырак фактычна заканчвае сваё функцыянаванне...**

— Адкуль вы?

**— З Бабруйска. Становішча сёння вельмі цяжкае. Раней змагаліся з хваробай. Цяпер лекі надзвычай дарагія. Можа хоць бы на аздараўленне куды-небудзь на нейкі месяц адправілі. Хоць бы паела дзіця па-нармальнаму...**

— У вашым выпадку абавязкова дапаможам. Укажыце, якія лекі патрэбны. Па магчымасці — дашліце копію медыцынскага заключэння. Думаю, што для вас важная дапамога не толькі аздараўленнем.

**— Вас турбуюць з Зэльвы, Гродзенскай вобласці, Лабовіч Любоў Іванаўна. У дачкі вельмі рэдкае захворванне — віціміла (ужо 5 гадоў). На Беларусі захворванне не лечаць. У 1994 годзе мы звярнуліся ва Ўкраінскі дзіцячы чарнобыльскі фонд, дзе дзяцей на лячэнне адбіраюць кубінскія дактары. Нам дапамаглі. А зараз, хаця ў нас і ёсць лекавы прэпарат «мелагенін», патрэбна паўднёвае сонца. Дапамажыце, калі ёсць такая магчымасць.**

— Я зразумеў вас. Колькі гадоў дзіцяці?

**— 12 гадоў.**

— Пад'едзьце да нас і прывязіце медыцынскія дакументы. Трэба будзе шукаць надзвычайныя варыянты, таму што ні на Кубу, ні ўвогуле ў краіны з высокім узроўнем сонечнай радыяцыі мы чарнобыльскіх дзяцей не пасылаем. А вашай дачцэ патрэбна менавіта сонечная тэрапія. У гэтым складанасць.

**— Мастоўскі раён, Курвіч Святлана Іванаўна. Хацелі б звярнуцца да вас з просьбай...**

— Вы не перасяленцы? Ведаю, што ў Мастах шмат перасяленцаў...

**— Не. Але ж і ў нашай дачкі захворванне, відавочна, звязанае з наступствамі аварыі. На дапамогу нашых дактароў не спадзяёмся. А дачцэ ж усяго два з паловай гады...**

— Святлана Іванаўна, цяжка па тэлефоне адразу сказаць нешта канкрэтнае. Але дактароў для вашага дзіцяці будзем шукаць. Абавязкова.

**— З Вілейскага раёна, Ніна Сяргееўна Курленка. Мы пераехалі са Стрэлічава Хойніцкага раёна.**

— Быў у вас і ў 1989 годзе, і пазней. Слухаю вас, Ніна Сяргееўна. Колькі ў вас дзяцей?

**— Двое.**

— Пішыце нам на адрас «Звязды». І як найхутчэй. Апішыце ўсё падрабязна. І тое, што дзеці хваравітыя, і тое, як вам жывецца.

**— Іванова з Добруша. Генадзь Уладзіміравіч, на плячах вашага фонду гэтулькі работы. І наколькі мне вядома, вам дастаецца нямала і бруду. Многа пакрыўджаных...**

— Дык што ж, тады нам нічога не рабіць?.. На вялікі жаль, часта даводзіцца сустракацца са звычайным чалавечым эгаізмам. Людзьмі кіруе перакананне: мяне пакрыўдзілі, маё дзіця не адправілі на аздараўленне — значыць, усё наўкола дрэнь. І ў фондзе тым усё адны падманшчыкі. Прабачце, шаноўны, а калі ваша дзіця ў параўнанні з другімі равеснікамі знаходзіцца ў шмат лепшым стане? Дык што, хто правільна паступае ў такім выпадку?... З эгаізму, зайздрасці растуць усялякія чуткі, плёткі, што, безумоўна, адбіваецца на жаданні людзей дапамагаць адзін аднаму, ахвяраваць сваім часам, сваім здароўем. Аднаму грамадскаму, якое не мае ніякай дзяржаўнай падтрымкі і існуе выключна дзякуючы намаганням простых людзей, не пад сілу вырашыць праблемы ў маштабах усёй дзяржавы, беды ўсяго чарнобыльскага рэгіёна.

Дарэчы, папярэднія сем гадоў работы фонду пераканалі мяне ў наступным. Не трэба траціць час на плёткароў і зайздроснікаў. Трэба займацца адным — сціснуць зубы і весці за сабой людзей, якія здольны сваімі рукамі ратаваць нашу будучыню. Ужо адно толькі тое, што сотні тысяч нашых суайчыннікаў перамагаюць сёння цяжкасці жыцця праз грамадзянскую, чалавечаю салідарнасць, — наша перамога, наш адказ плеткарам і зайздроснікам, няздольным самастойна і кроку ступіць. Мы не чакаем міласці ад чыноўнікаў, не спадзяёмся на цуд, які зробіць нейкі змагар за шчасце народнае.

Будзем спадзявацца, што ўпартасць і настойлівасць дапамогуць людзям зразумець, хто робіць нешта вартае ў гэтым жыцці. Дзякуй вам за падтрымку, Падключайцеся, калі ласка, да нашай працы.

**— Быхаўскі раён. Вас непакояць з вёскі Слепікі. Шмак Надзея Канстанцінаўна. Майму Юру дзевяць гадоў. Дапамажыце адправіць на аздараўленне...**

— Над вашым, дарэчы, раёнам дабрачыннае шэфства ўзялі нашы добрыя замежныя сябры з Германіі, з Дзюсельдорфа. Шмат чаго з нашай падтрымкай ужо зраблена. Так што чакаем вашага пісьма.

**— Генадзь Уладзіміравіч, звяртаемся да вас з Нароўлі. З раёна, дакладней. Спрабавалі са школы адправіць дзяцей на аздараўленне. Не адпраўляюць. Едуць толькі з райцэнтра. Што рабіць?**

— Сітуацыя зразумелая. Складзіце спіс дзяцей, якія патрабуюць першачарговага аздараўлення. Адправім праз фонд. Дзеля гэтага і праводзім акцыю «Выратаванне», сэнс якой і ў тым, каб выявіць дзяцей, што не праходзілі аздараўлення, менавіта з глыбінкі, з вёскі. Там, дзе болей чыноўніцтва, заўсёды цяжэй прабіцца збоку.

Апішыце сітуацыю, Галіна Фёдараўна, у вашай вёсцы. Думаю, што ўжо сёлета зможам вам дапамагчы.

**— Я не хачу прадстаўляцца... У мяне такое вось пытанне. Ці надоўга ў вас асабіста хопіць сіл. Колькі гадоў ужо цягнеце гэты воз, а падзякі наўрад ці дачакаецеся. Вядома, і чыста грамадскіх памагатых у вас наўрад ці шмат. Хто ж сёння будзе займацца гэтай справай «затак»...**

— Цяжкае пытанне задалі вы мне. Сіл чалавеку дадзена роўна гэтулькі, колькі патрабуе яго жыццё. Выйдуць усе сілы — канец жыццю. Але ж мае сілы — гэта падтрымка нашай справы многімі тысячамі паплечнікаў. Добры плён дзейнасці фонду залежыць непасрэдна ад таго, які ўдзел прымаюць у ёй простыя людзі, як актыўна на нашы ініцыятывы адгукнуцца ў грамадстве. І сёння, калі па ўсёй Беларусі, у сотнях гарадоў і вёсак да нашай справы цягнуцца людзі, калі наш прыклад абуджае веру і надзею абяздоленага і падманутага чалавека, я думаю, што гэта — ужо надоўга. Ну, а наконт падзякі... Вы ведаеце, ёсць такія моманты, калі найвялікшы гонар — не мець чыноўніцкіх ганаровых грамат.

**— Генадзь Уладзіміравіч?.. Гэта — з Расонаў. Любоў Аляксееўна... Многія дзеці сёння патрабуюць аздараўлення. Хварэюць жа не толькі ў выніку аварыі. Чаму вашы і падобныя ім праграмы зарыентаваны толькі на чарнобыльскіх дзяцей?..**

— З самага пачатку ўсяе дабрачыннай работы львіная доля праектаў была зарыентавана, скажам так, на чарнобыльскіх дзяцей. Таму і працуем мы зараз у гэтым накірунку. Але сёння можна казаць, што ўсе беларускія дзеці пакутуюць ад Чарнобыля. Ёсць дамоўленасць з замежнымі партнёрамі, што фонд будзе дапамагаць і тым дзецям, якія непасрэдна не пацярпелі ад выбуху чарнобыльскага рэактара. Дарэчы, мы і раней імкнуліся дапамагчы кожнаму, хто звярнуўся да нас.

**— Глядзела ўчора тэлеперадачу з вашым удзелам. Вельмі ж ужо сціплым падаецца клопат дзяржавы аб ахвярах чарнобыльскай аварыі...**

— Сапраўды, у перадачы, дзе, акрамя кіраўнікоў грамадскіх арганізацый, удзельнічаў і старшыня парламенцкай чарнобыльскай камісіі В. Хоміч, было пастаўлена пытанне, што дзяржава здольна фінансаваць аздараўленне дзяцей, іншыя клопаты толькі працэнтаў на сорак — пяцьдзесят. Нават праблемы выканання дзеючага заканадаўства па сацыяльнай абароне пацярпеўшых ад Чарнобыля не вырашаюцца з-за адсутнасці ў дзяржавы грошай. Старшыня парламенцкай камісіі шчыра прызнаў, што вялікую ролю ў жыцці людзей сёння адыгрываюць гармадскія, грамадзянскія ініцыятывы, дабрачынная дзейнасць. Добра, што гэта прагучала. Але ж пераважная большасць чыноўнікаў усіх узроўняў не жадае разумець гэтага. На сённяшні дзень шмат розных бар'ераў для нашага фонду. Нельга пагадзіцца з тым, што дзяржава, не здольная сама дапамагчы людзям, стрымлівае нашу працу. І тут я чакаю падтрымкі з боку тых, хто чакае ад нас дапамогі.

**— Кацярына Канстанцінаўна Панякевіч. У мяне хворае дзіця. Як адправіць яго на аздараўленне?**

— Пішыце нам. Раскажыце пра хваробу сына.. Вы гаворыце, што пісалі? Перадавалі праз некага... Дарэмна. Пішыце напрамую. Можаце дасылаць свой зварот у рэдакцыю. Абавязкова пазначайце на канверце: акцыя «Выратаванне». Не абяцаю, што летам адправім. Але тое, што сёлета, — абавязкова.

**— Генадзь Уладзіміравіч, турбуе вас Мядзведзь Галіна Уладзіміраўна. Звяртаюся да вас вось з якой просьбай. Дапамажыце. Гатовая і грошы заплаціць. У дзіцяці цяжкае захворванне. Але мы не чарнобыльцы...**

— Фонд наш — выключна дабрачынная арганізацыя. Ніякіх грошай мы ніколі ад людзей не бралі, тым больш ад чарнобыльскіх ахвяр. Калі ўжо ўзяліся некаму дапамагчы, то дапамагаем. Што датычыцца вас, то давайце сустрэнемся і пашукаем магчымасць нешта зрабіць для вашага дзіцяці. Але лепш выкласці ўсё на паперы. За дзень у штаб-кватэру фонду прыходзіць ад 10 да 150 чалавек. Вы ўяўляеце, колькі часу гэтыя сустрэчы займаюць... Таму лепш — лістом. Можна будзе спакойна разабрацца, прыняць рашэнне. Пішыце. Чакаем.

**(Заканчэнне ў наступным нумары.)**

# Беларусь, згубіўшы пошукаўцаў у ролі «чырвоных следапытаў», набыла фактычна дзяржаўную пошукавую каманду, якая лічыць за мэту і гонар палюдску перапахаваць косці ахвяр усіх войнаў

**З развалам Савецкага Саюза палітычны вердыкт быў вынесены і самым розным галінам грамадскай дзейнасці. Сярод пацярпеўшых аказалася і шырокамаштабная героіка-патрыятычная, пошукавая праца. У занядбаным стане аказаліся многія школьныя музеі баявой славы. Рух «Ніхто не забыты, нішто не забыта» аказаўся непатрэбным і непрыдатным для новых палітычных, грамадскіх, сацыяльных умоў. І гэта тады, калі працы «чырвоным следапытам» не паменела, а хутчэй наадварот. Страчаная грамадская ініцыятыва замарудзіла, адштурхнула назад развіццё, вопыт і пошукі не ўлічаных, не адзначаных, не ўшанаваных раней пахаванняў ахвяр вайны. І тады ў справу ўмяшалася дзяржава. Напрыканцы 1994 года Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у саставе Міністэрства абароны створана ўпраўленне па ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны, а таксама пошукавы батальён.**

**Сённяшняя наша гутарка з начальнікам упраўлення Мікалаем Міхайлавічам ЕШЧАНКАМ.**

**-Дзесяцігоддзямі фактычная пошукавая праца знаходзілася на задворках дзяржаўнай увагі. Хіба што тыя ж школьнікі рупіліся... І вось раптам на Беларусі, ідэнтычна існуючым структурам у заходніх краінах, ствараецца адпаведная дзяржаўная служба...**

— Эвалюцыя гэтай з'явы пачынаецца крышачку раней. 21 снежня 1992 года выйшла Пастанова Савета Міністраў Беларусі аб стварэнні ўпраўлення па ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны пры Камітэце па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых... Я тады яшчэ праходзіў службу ў рэспубліканскім ваенкамаце, якраз курыраваў пытанні ўвекавечання. І прымаў удзел у распрацоўцы заканадаўчых актаў у адносінах да Узброеных Сіл. Пасля, у сакавіку 1993 года, звольніўшыся з дзеючай службы, перайшоў на работу ва ўпраўленне па ўвекавечанню. Вось там і заняўся распрацоўкай дакументаў: рэспубліканскай праграмы, палажэння і г. д. Але гэта ўпраўленне не доўга праіснавала, як і сам, дарэчы, Камітэт па сацыяльнай абароне. Малаэфектыўнай атрымалася дзейнасць упраўлення. Састаў яго супрацоўнікаў аказаўся неаднародным. Спецыялістаў, якія ведаюць справу, не знайшлося амаль што. І вось з усталяваннем прэзідэнцкага кіравання функцыі камітэта перадалі розным міністэрствам. На гэтым як быццам усё завяршылася. Але ж не маўчала грамадскасць. Ішлі лісты з месцаў. Людзі не маглі абыходзіць увагай раскінутыя па ўсёй, лічы, Беларусі косці. У выніку і з'явіўся Указ Прэзідэнта ад 24 лістапада 1994 года аб стварэнні ўпраўлення, і пошукавага батальёна.

**— І само ўпраўленне, і батальён — фарміраванні неардынарныя. Ні раней, ні зараз у ваенных вучылішчах і акадэміях пошукаўцаў не рыхтуюць...**

— Сапраўды, у першую чаргу ўсялякую справу вызначаюць людзі. Вось мы і імкнуліся сабраць не проста выканаўцаў, а людзей апантаных, энергічных. Як, напрыклад, Лунёў Віталь Анатольевіч. Доўгі час ён быў кіраўніком грамадска-пошукавага атрада «Белая Русь», у мінулым — афіцэр-дэсантнік, капітан запасу. Чалавек дасведчаны, адукаваны. Між іншым, мае і гістарычную адукацыю. А ўзяць Мікалая Мікалаевіча Церабенка. Кадравы афіцэр. У свой час узначальваў Рэспубліканскую асацыяцыю пошукавых атрадаў. Прыцягнулі іншых людзей, у асноўным афіцэраў запасу. І вось што хачу заўважыць. У наша ўпраўленне і на штатную работу, і проста з грамадскай, бясплатнай дапамогай ідуць людзі неардынарныя. Тыя, каму сэрца баліць за бездухоўнасць, за тое, што і праз паўвека пасля вайны раскіданы па лясах і балотах, па лугах і палетках косці ўдзельнікаў, ахвяр вайны.

**— Мікалай Міхайлавіч, як мы ўжо заўважылі, пошукавая праца перайшла ў новае вымярэнне. Беларусь, згубіўшы пошукаўцаў у ролі «чырвоных следапытаў», набыла фактычна дзяржаўную пошукавую каманду, якая лічыць за мэту і гонар палюдску перапахаваць косці ахвяр усіх войнаў. І ўжо гэты клопат патрабуе пэўнай заканадаўчай базы. Ці не так?**

— Безумоўна. І з гэтага, у першую чаргу са стварэння нарматыўных дакументаў, упраўленне і пачало работу. Іх раней — палажэнняў-інструкцый — як дзяржавай засведчаных дакументаў проста не было.

**— Відаць, у першую чаргу неабходна было Палажэнне аб пошукавай працы...**

— Так. Іначай, пры яго адсутнасці як жа можна капаць?.. Вось мы і стварылі Палажэнне аб пошукавым батальёне. Што павінны рабіць пошукаўцы? Які характар іх узаемадзеяння з райваенкаматамі, з органамі мясцовай улады? Разумееце, не адказаўшы на гэтыя пытанні, можна проста святую працу звесці на нішто, змарнаваўшы толькі час. Адкапалі невядомае раней пахаванне, знайшлі рэчы, астанкі. Што далей? Вось дзеля таго, каб праца была зладжанай, каб у яе быў вынік, і патрэбна заканадаўчая база. Сёння, акрамя Палажэння аб пошукавым батальёне, існуе і шэраг дырэктыў міністра абароны.

**— Але гэтыя дакументы не замяняюць закона, напрыклад, аб пошукавай дзейнасці...**

— Магчыма, яго стварэнне — яшчэ заўтрашняга дня справа. А працаваць ужо сёння трэба. І ў працы не абысціся нават без праграмы баявой падрыхтоўкі таго ж пошукавага батальёна. Для кожнага рода войскаў — сувязі, артылерыі і г. д. — былі свае праграмы. А хто ведае, як падрыхтаваць пошукаўца? Дарэчы, кожны з салдат, які займаецца непасрэдна раскопкамі, зацверджаны на гэту справу загадам міністра абароны.

**— Што ні кажы, высокі гонар...**

— І высокая, проста велізарная, адказнасць. Перш чым быць дапушчаным да раскопак, кожны салдат праходзіць спецыяльную падрыхтоўку. Усе воіны дасведчаныя ў сапёрнай справе.

**— Мікалай Міхайлавіч, а падобныя вайсковыя фарміраванні ці ёсць у саставе Узброеных Сіл іншых краін СНД?**

— Увогуле ў свеце ў асноўным прэрагатывай і абавязкам менавіта міністэрстваў абароны, узброеных сіл з'яўляецца клопат па ўвекавечанню, па перапахаванню. Работа ў многіх краінах з'яўляецца настолькі магутнай, што часам, як, напрыклад, у Італіі, пошукаўцы ставяць сваёй мэтай вяртанне астанкаў да сябе на радзіму.

**— Можна толькі ўявіць, якіх матэрыяльных выдаткаў гэта патрабуе...**

— Давайце крышачку прыземлімся. Ніхто ж у сям'і, ведаючы нават гэта, трымаючы ў думках, не абураецца, у якую капейчыну абыходзіцца пахаванне блізкага чалавека, бацькі, мужа, сына... Вось і да забытых магіл (а часам і не магіл зусім, а нейкіх там ям, варонак, траншэй) не з аднаго толькі меркантыльнага пункту гледжання трэба падыходзіць.

А што датычыць параўнання нашай краіны ў арганізацыі пошукавай працы з іншымі краінамі СНД, то Беларусь і тут наперадзе ўсіх. Падобнага батальёна нідзе няма. Зараз вось толькі пачынаецца стварэнне Каардынацыйнага савета СНД па пошукавай рабоце. Будзе ў ім і наша краіна прадстаўлена. Але ж і Беларусь знаходзіцца ў іншых умовах. Гэтулькі астанкаў, колькі ёсць на тэрыторыі нашай дзяржавы, дзе яшчэ можа знаходзіцца?!

**— І ўсё ж хацелася б вярнуцца, паколькі вы ўзгадалі пра маштабы, паколькі і лічба непахаваных дастойным чынам ахвяр на Беларусі — ад 1 да 1,5 мільёна — не выходзіць з галавы, вось да якога пытання. Ці не выглядае праца ўпраўлення Міністэрства абароны, вашага ж батальёна свайго роду узурпацыяй, манаполіяй на ўсю пошукавую дзейнасць?**

— Так, раскопкі мае права весці выключна пошукавы батальён Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Грамадскія аб'яднанні не павінны гэтым займацца. Ужо хаця б таму, што зямля хавае шмат выбухованебяспечных прадметаў. А што ўжо казаць пра адсутнасць у грамадскіх пошукаўцаў цэласнай праграмы па ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны, ахвяр вайны.

**— І ўсё ж капаюць...**

— Капаюць. Больш таго — часам атрымліваюць дазвол ад мясцовых уладаў. Ці робяць гэта пры іх маўклівай згодзе. І добра, калі пошукаўцы ставяць перад сабой нармальныя мэты. Калі перадаюць знаходкі ў музеі, калі самі ствараюць у якой-небудзь школе музей. Зусім іншая справа, калі капаюць дзеля нажывы. Зразумела, шукаюць не зброю, ды і не золата. Гэтыя этапы для так званых «чорных» альбо «дзікіх» следапытаў лічацца ўжо даўно пройдзенымі. Сёння ўжо шукаюць медальёны... І, вядома ж, медальёны не нашых суайчыннікаў, не савецкіх салдат. Шукаюць сведчанні, што ў тым ці іншым месцы захоўваюцца астанкі чужаземных салдат. А нешта знайшоўшы, вокамгненна налажваюць кантакты з немцамі, італьянцамі ці яшчэ з некім. Пачынаецца своеасаблівы гандаль... Праўда, за мяжою, нават у саставе грамадскіх арганізацый, людзі вызначаюцца законапаслухмянасцю. І, атрымаўшы з Беларусі тую альбо іншую прыватную інфармацыю, немцы, напрыклад, пачынаюць выходзіць з ёю на нашы дзяржаўныя структуры.

Пошукаўцы дапамагчы маглі б у іншым. Пошукавая ж праца — не толькі рыццё, капанне. Шмат часу займае збор архіўных матэрыялаў, пошук і апытанне сведак. Вось бы на што скіраваць грамадскую ініцыятыву!

**— Мікалай Міхайлавіч, колькі слоў пра маштабы работы, якой сёлета займаецца пошукавы батальён...**

— У саставе пошукавай часці тры роты. Усе яны дыслакуюцца ў розных месцах. У Мінску, у Віцебску і Гродне. Складзены спецыяльны план на 1996 год. Зацверджаны гэты дакумент начальнікам Галоўнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнантам А. Чумаковым. Усяго вызначана 47 аб'ектаў. З іх 14 знаходзіцца ў Мінску і Мінскай вобласці, астатнія — у Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай абласцях. Ёсць проста унікальныя, шырокамаштабныя пахаванні. Напрыклад, у Віцебску — раён былога 5-га палка. Месца пахавання не ўлічвалася раней, не ўвекавечана, зразумела. Паводле архіўных матэрыялаў, там знаходзяцца астанкі каля 100 тысяч савецкіх ваеннапалонных. Ёсць няўлічаныя пахаванні нават на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці. Што ж, косці маўчаць. За іх нешта могуць сказаць хіба што паперы, іншыя дакументальныя крыніцы, жывыя сведкі, якіх год ад году становіцца ўсё меней і меней.

**— Значыць, трэба спяшацца...**

— І як мага хутчэй. Але ж адной дзяржаве, без усенароднай падтрымкі, справу гэтую не пацягнуць.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**P. S.** Вынікам нацысцкай палітыкі генацыду і «выпаленай зямлі» на тэрыторыі Беларусі з'явілася знішчэнне звыш 2 млн. 200 тысяч грамадзян былога СССР. За час Вялікай Айчыннай вайны ў нашай рэспубліцы дзейнічалі звыш 260 лагераў смерці, іх філіялаў і аддзяленняў. Сапраўдныя «камбінаты смерці» існавалі ў Трасцянцы, іншых гарадах і вёсках. Дзесяткі, сотні тысяч ахвяр вайны не ўвекавечаны дастойным чынам. Косці нашых суайчыннікаў, астанкі салдат ляжаць на палетках, засеяных збожжам. Часам чарапы і шкілеты знаходзяць на новабудоўлях, капаючы катлаваны пад новае жытло. Якім жа можа быць новае (няўжо багатым і светлым) жыццё, пабудаванае па касцях прашчураў?..

**Паважаныя чытачы! «Звязда» чакае ад вас лістоў з пазнакай «Ўвекавечанне» — раскажыце ці дастойна ўшанавана памяць ахвяр у вашых мясцінах? Якія таямніцы вайны хаваюць вашы лугі і палеткі, вашы лясы-пералескі?**

*ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ*

# ШАНЦ ВЫЖЫЦЬ У «ГАРЫЗОНТА» ЁСЦЬ. І НЕ АДЗІН

**26 чэрвеня Прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ «Аб рэалізацыі праграмы фінансава-эканамічнага аздараўлення прадпрыемстваў тэлевізійнай галіны», які значна аблегчыць, як лічаць спецыялісты, становішча беларускіх заводаў. Указ прадастаўляе льготы па падатках, адтэрміноўку плацяжоў па даўгах. На мінскім вытворчым аб'яднанні «Гарызонт» уздыхнулі з палёгкай — шанц выжыць ёсць.**

**СА З'ЯЎЛЕННЕМ УКАЗА МАГЧЫМАСЦІ «ГАРЫЗОНТА» ПАШЫРАЮЦЦА**

Сённяшняя цана «народнага» тэлевізара складае 260—280 долараў. Відавочна, што розніца ў кошце паміж айчынным і замежным тэлевізарам нязначная — дзесьці 30—40 долараў. Тым не менш спецыялісты завода лічаць, што рынак патрабуе наяўнасці і беларускага тавара. Пакупніцкая здольнасць сёння вельмі розная, і калі для аднаго не складана заплаціць 30 лішніх долараў, то для другога і гэта грошы. Хаця якасць нашага тэлевізара пакідае жадаць лепшага.

Вырашэннем гэтага пытання і займаюцца на заводзе «Гарызонт». Паводле слоў намесніка дырэктара па вытворчасці Анатоля Галубовіча, за лета адбудуцца перамены ў структуры пастаўшчыкоў камплектуючых. Сёння з заводам працуюць звыш тысячы прадпрыемстваў. Шэсцьдзесят працэнтаў пастаўшчыкоў — расійскія. Тым не менш адміністрацыя «Гарызонта» глядзіць у бок замежных партнёраў: там камплектуючыя таннейшыя.

Рынак ёсць рынак, ён не дазваляе працаваць з айчыннымі прадпрыемствамі толькі з пачуцця патрыятызму. Кантракты з усходнімі і заходнімі партнёрамі дадуць магчымасць знізіць сабекошт тэлевізара на першым этапе на 20—25 долараў, пазней яшчэ на 30. Якасць пры гэтым будзе павышацца. Да пачатку 1997 года «Гарызонт» плануе выпрабляць якасны і даволі танны тэлевізар.

Вырашэнне другой задачы — павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці — таксама ўяўляецца рэальным. У снежні гэтага года завод павінен вырабіць 25 тысяч тэлевізараў, праз пэўны тэрмін выйсці на аб'ём 600—650 тысяч у год. Спецыялісты прагназіруюць, што гэтая прадукцыя не асядзе на складах. Асноўная колькасць спажыўцоў (звыш 80 працэнтаў) — у Расіі. Сёння ёмістасць рынку суседняй дзяржавы — 6—6,5 мільёна тэлевізараў у год. Па ацэнках спецыялістаў, за мінулы год у Расію завезена з замежжа 4,5—5 мільёнаў тэлевізараў: такім чынам існуючая ніша павінна быць занята.

**РЭАЛІІ СЁННЯШНЯГА ДНЯ**

Выдзелены Міністэрствам фінансаў крэдыт у памеры 50 мільярдаў рублёў даў магчымасць запусціць завод. Тры-чатыры месяцы, па словах спадара Галубовіча, ён будзе працаваць — выпускаць штомесяц па 10—15 тысяч тэлевізараў. На 10 тысяч, што выраблены за чэрвень, дагаворы на рэалізацыю ўжо заключаны. Куды падзенуцца астатнія 30—45 тысяч тэлевізараў, пакуль не вызначана. На заводзе вядзецца сур'ёзная работа па аднаўленню дылерскай і гандлёвай сеткі (у прыватнасці, у Расіі ў свой час было 50 фірменных магазінаў беларускага прадпрыемства). У рэспубліцы плануецца аднавіць сістэму сервіснага абслугоўвання. Хаця ў Беларусі і ў лепшыя часы набывалі не больш за 100—120 тысяч тэлевізараў у год (пры аб'ёмах вытворчасці 1 мільён 100 тысяч), беларускія пакупнікі не павінны адчуваць складанасці ў абслугоўванні тэхнікі.

На сённяшні дзень на заводзе няпростая сітуацыя з кадрамі: многія кваліфікаваныя спецыялісты пакінулі завод. Зразумела, не могуць людзі жыць паветрам, вадой і абяцаннямі. Заработную плату на прадпрыемстве нядаўна выплацілі за сакавік. У графік выплаты зарплаты на прадпрыемстве плануюць выйсці толькі ў верасні, пры ўмове, што з'явяцца сродкі ад рэалізацыі выробленага тавару. Сярэдняя зарплата на заводзе сёння 800 тысяч рублёў.

**ПЕРСПЕКТЫВЫ З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ КІРАЎНІЦТВА ЗАВОДА**

Прапанова Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі на сустрэчы са старшынёй праўлення паўднёвакарэйскай карпарацыі «Дэу Электронік» Кім Ву Чунгам аб стварэнні сумеснага прадпрыемства не была выпадковай. Па словах спадара Галубовіча, з карпарацыяй беларускія вытворцы працуюць ужо год і справы дайшлі да пратакола аб намерах, падпісанага з боку «Дэу Электронік». Васьмігадовыя адносіны звязваюць «Гарызонт» і кампанію «Філіпс». Сумесна са спецыялістамі гэтай фірмы была распрацавана самая эканамічная 655 мадэль тэлевізара «Гарызонт». Сёння вядуцца перамовы з кампаніяй «Філіпс» аб стварэнні сумеснага прадпрыемства. Дагавор ужо практычна падпісаны. Аднак патрабуецца пераўтварэнне дзяржаўнага прадпрыемства. На працягу трох месяцаў павінна адбыцца акцыяніраванне «Гарызонта».

Акцыяніраванне патрэбна і для рэалізацыі другой мэты — стварэння фінансава-прамысловага холдынга, у састаў якога ўвойдуць не толькі пяць прадпрыемстваў МВА «Гарызонт» і дзяржаўнае міністэрства, а таксама камерцыйны банк «МінскКомплексБанк».

**ПЕРСПЕКТЫВЫ З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ «МІНСККОМПЛЕКСБАНКА»**

«МінскКомплексБанк» крэдытаваннем МВА «Гарызонт» займаецца з канца 1994 года. За гэты час інвесціравана каля 6 мільёнаў долараў. Апіраючыся на рашэнне Кабінета Міністраў, а таксама Указ Прэзідэнта РБ № 1157 ад 2 мая 1996 года «Аб мерах па ўпарадкаванню банкаўскай і іншай фінансавай дзейнасці», «МінскКомплексБанк» просіць Нацбанк надаць яму статус банка, які абслугоўвае дзяржаўную праграму падтрымкі і развіцця прадпрыемстваў радыёэлектроннай прамысловасці. Гэта дасць магчымасць кантролю сродкаў, якія выдзяляе фінансавая ўстанова заводу. А потым варта стварыць холдынг. У састаў холдынга гатовы ўвайсці, акрамя беларускага, расійскі банк і іншыя расійскія інвестары. Праект закона аб холдынгу спецыялісты «МінскКомплексБанка» ўжо падрыхтавалі. У поспеху дзейнасці холдынга яго патэнцыяльныя ўдзельнікі ўпэўненыя: ні адзін інвестар не стане ўкладваць сродкі ў прадпрыемства, якое працуе на склад. У «Інтэграла» ж і ў «Гарызонта», у прыватнасці, ёсць значныя рэзервы. У хуткім часе адбудзецца вызваленне 6 тысяч квадратных метраў плошчаў. Тут адміністрацыя «Гарызонта» гатова размясціць вытворчасць любой прадукцыі. Неабходна «дробязь» — закон аб холдынгу і папраўка да закона аб падаткаабкладанні. Пасля гэтых карэктыў «народны» тэлевізар зможа ўтрымацца, а «Гарызонт» выжыць.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**




# НАСУСТРАЧ АЛІМПІЯДЗЕ!

**Крыху больш чым праз тыдзень, 19 ліпеня, стартуюць XXVI Летнія Алімпійскія гульні ў Атланце, якія пройдуць у год стогадовага юбілею алімпійскага руху. Упершыню за час набыцця суверэнітэту самастойнай камандай выступяць беларускія «летнікі». У састаў афіцыйнай дэлегацыі ўвойдзе 244 чалавекі, з якіх 158 спартсменаў. Сярод надзей на алімпійскае «золата» гімнаст Віталь Шчэрба, кідальніца кап'я Наталля Шыкаленка, цяжкаатлет Аляксандр Курловіч...**

**Усяго беларусы выступяць у 19 відах спорту.**

**Самая вялікая дэлегацыя ЗША — 1065 чалавек. Алімпійскія гульні ў Атланце адкрые прэзідэнт ЗША Біл Клінтан на новым алімпійскім стадыёне, які змяшчае 83.100 гледачоў. Дарэчы, кошт арэны амерыканскай казне абышоўся ў 209 мільёнаў долараў.**

**У сёлетніх Алімпійскіх гульнях будзе разыграна 271 камплект узнагарод, за якія паспрачаюцца больш як 10 тысяч спартсменаў са 197 краін.**

**Па меркаванню арганізатараў гульняў, штодзень трансляцыі са спартыўных арэн Злучаных Штатаў будуць глядзець у сярэднім 2 мільярды балельшчыкаў. Амерыканская тэлесетка Эй-Бі—Сі заплаціла за права асвятляць ход гульняў 456 мільёнаў долараў.**

**Арганізатарам гульняў з'яўляецца Алімпійскі камітэт Атланты (АКА) — прыватная камерцыйная арганізацыя. Забяспечваць лепшыя ўмовы для спартсменаў, трэнераў, балельшчыкаў будуць 1400 супрацоўнікаў АКА, 42.500 добраахвотнікаў, амаль 40.000 працуючых кантрактнікаў і 5334 чалавекі адкамандзіраваных ці працуючых на пагадзіннай аснове. У Алімпійскай вёсцы на тэрыторыі тэхналагічнага ўніверсітэта штата Джорджыя ў Атланце паселяцца амаль 14 тысяч спартсменаў і членаў афіцыйных дэлегацый.**

**Па папярэдніх падліках расходы на правядзенне XXVI Летніх Гульняў складуць 1,6 мільярда долараў. Праўда, яны будуць пакрыты за кошт продажу права на асвятленне спаборніцтваў па каналах тэлевізійнай сувязі, за кошт спонсараў, ад продажу білетаў і рознай алімпійскай атрыбутыкі ў выглядзе значкоў, маек, шапак, пакетаў, вымпелаў.**

**Амерыканцы не сумняваюцца, што Алімпіяда прынясе ім вялікі прыбытак звыш 5 мільярдаў долараў, што дасць магчымасць стварыць у Джорджыі дадаткова 80 тысяч рабочых месцаў.**

**Талісманам Гульняў у Атланце будзе падлетак, герой мультфільма Іззі, які жыве ўнутры Алімпійскага агня. Гэтае імя прыйшлося даспадобы большасці членаў журы, у састаў якога ўвайшлі 32 амерыканскія хлопчыкі і дзяўчынкі ва ўзросце ад 7 да 12 гадоў.**

## ПРАГРАМА ВЫСТУПЛЕННЯ БЕЛАРУСКІХ СПАРТСМЕНАЎ НА XXVI АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ 1996 г., СКЛАДЗЕНАЯ ПЕРАВАЖНА НА АСНОВЕ АФІЦЫЙНАЙ АЛІМПІЙСКАЙ ПРАГРАМЫ (ПА ДНЯХ)

| №№ п/п | Віды спорту | Від праграмы | Прозвішча спартсмена |
|---|---|---|---|
| | | **20 ліпеня** | |
| 1. | **Бокс** | усе вагавыя катэгорыі - 1 тур | Астрашапкін Н. С. (60)<br>Дычкоў С. (91)<br>Ляховіч С. (+91)<br>Быкоўскі С. (63.5)<br>Мезга В. (67) |
| 2. | **Фехтаванне** | 1/32 асабістыя<br>1/16 асабістыя | Захараў В.<br>Захараў В. |
| 3. | **Гімнастыка спарт.** | каманд. пер-ва (муж.) | Шчэрба В., Кан. А<br>Рудніцкі В.<br>Беланоўскі А.<br>Паўлоўскі І.<br>Іванкоў І.<br>Лапкін А. |
| 4. | **Барацьба дзюдо** | цяж. вага, папярэдн. (муж.)<br>цяж. вага. суцяш. | Шарапаў Р. |
| 5. | **Стральба кулявая** | 10 м пнеўм. вінт.<br>папярэдн. фінал (жан.)<br>10 м пнеўм. піст., папярэдн.<br>фінал (муж.) | Паграбняк В.<br>Шылава І.<br>Басінскі І.<br>Лукашык К. |
| 6. | **Плаванне** | 100 м в/стыль папярэдн., (жан.)<br>100 м брас папярэдн., (муж.) | Жыдко А.<br>Крывянцоў А. |
| 7. | **Цяжкая атлетыка** | 54 кг гр. А | Сіняк В. |
| 8. | **Барацьба грэка-рымская** | 48 кг, папярэдн.<br>68 кг, папярэдн.<br>82 кг, папярэдн.<br>100 кг, папярэдн.<br>48 кг, класіф.<br>68 кг, класіф.<br>82 кг, класіф.<br>100 кг, класіф.<br>48 кг, 3 круг | Паўлаў А.<br>Маджыдаў К.<br>Цыленць В.<br>Ліштван С.<br>Паўлаў А.<br>Маджыдаў К.<br>Цыленць В.<br>Ліштван С.<br>Паўлаў А. |
| | | **21 ліпеня** | |
| 1. | **Бокс** | усе вагавыя катэгорыі, 1 тур | Астрашапкін С. (60)<br>Дычкоў С. (91)<br>Быкоўскі С. (63.5)<br>Ляховіч С. (+91)<br>Мезга В. (67) |
| 2. | **Гімнастыка спарт.** | каманда абавяз., (жан.) | Піскун А. Саўко А.<br>Багінская С.<br>Юркіна В. Сабко Ю.<br>Палазкова А.<br>Тарасевіч С. |
| 3. | **Барацьба дзюдо** | 95 кг., папярэдн. | Свірыд Л. |
| 4. | **Стральба кулявая** | 10 м. пнеўм. пісталет (жан.), папярэдн.<br>10 м. пнеўм. піст. (жан.) фінал | Мільшына Л.<br>Сіняк Ю. |
| 5. | **Плаванне** | 200 м в/стыль папярэдн. (жан.)<br>100 м. брас папярэдн., (жан.) | Барoдзіч І.<br>Рудкоўская А. |
| 6. | **Барацьба грэка-рымская** | 48 кг., класіф.<br>68 кг., класіф.<br>82 кг., класіф.<br>100 кг., класіф. | Паўлаў А.<br>Маджыдаў К.<br>Цыленць В.<br>Ліштван С. |
| 7. | **Веславанне акадэмічн.** | А-2, папярэдн. (муж.)<br>А-1, папярэдн. (жан.) | Плячысцік Д.<br>Мірончык Д.<br>Хадатовіч А. |
| 8. | **Велашаша** | фінал (жан.) | |
| | | **22 ліпеня** | |
| 1. | **Бокс** | 1 тур | Астрашапкін С. (60)<br>Дычкоў С. (91)<br>Быкоўскі С. (63,5)<br>Ляховіч С. (+91)<br>Мезга В. (67) |
| 2. | **Гімнастыка спарт.** | каманднае, адв. праграма (муж.)<br>фіналы | Шчэрба В.,<br>Кан А.<br>Беланоўскі А.<br>Паўлоўскі І.<br>Рудніцкі В.<br>Іванкоў І. |
| 3. | **Стральба кулявая** | 10 м. пнеўм. вінт. папярэд., фінал (муж.) | Мартынаў С.<br>Кліменка А. |
| 4. | **Плаванне** | 100 м. в/стыль, папярэдн. (муж.)<br>4х100 в/стыль папярэдн. (жан.)<br>100 м. в/стыль фінал В (муж.) | Рухлевіч А.<br>Попчанка А.<br>Барoдзіч І.<br>Бараноўская Н.<br>Кундзелева Т.<br>Жыдко С. |
| 5. | **Барацьба грэка-рымская** | 52 кг, папярэдн.<br>62 кг, папярэдн.<br>74 кг, папярэдн.<br>90 кг, папярэдн. | Ахмедаў І.<br>Пятрэнка І.<br>Капытоў В.<br>Сідарэнка А. |
| 6. | **Парусны спорт** | «Лазер» 1 гонка<br>«Лазер» 2 гонка<br>«Еўропа» 1 гонка<br>«Еўропа» 2 гонка<br>«Зорны» 1 гон.<br>«Зорны» 2 гон.<br>«Тарнада» 1 гонка<br>«Тарнада» 2 гонка | Зеляноўскі А.<br>Зеляноўскі А.<br>Падабед А.<br>Падабед А.<br>Харэцкі С., Зуеў В.<br>Харэцкі С., Зуеў В.<br>Краўцоў С., Буданцаў В.<br>Краўцоў С. Буданцаў В. |
| 7. | **Веславанне акадэмічн.** | А-4 парная папярэдн. (муж.)<br>А-8 папярэдн. (жан.) | Саламахін А.<br>Кінякін С.<br>Бялевіч К.<br>Табако Д.<br>Тарасевіч С.<br>Паўловіч Я.<br>Знак М., Волчак Н.<br>Панькіна А.<br>Давыдзенка Т.<br>Грыбко І., Стасюк Н.<br>Скрабатун В.<br>Мікуліч В.<br>Лаўрыненка Н. |
| | | **23 ліпеня** | |
| 1. | **Бокс** | усе вагавыя катэгорыі, 1 тур | Астрашапкін С. (60)<br>Дычкоў С. (91)<br>Ляховіч С. (+91)<br>Быкоўскі С. (63.5)<br>Мезга В. (67) |
| 2. | **Тэніс** | Адзін раз д. (жан.) 1 тур | Зверава Н. |
| 3. | **Гімнастыка спарт.** | каманд. практ. адвольная праграма, фіналы | Піскун А., Багінская С.,<br>Юркіна В.,Саўко А.,<br>Палазкова А., Сабко Ю. |
| 4. | **Стральба кулявая** | адв. пісталет, 50 м. папярэдн. (муж.) | Басінскі І.<br>Лукашык К. |
| 5. | **Плаванне** | 200 м брас папярэдн., фінал (жан.)<br>100 м. батэрфл., папярэдн. фінал (жан.) | Рудкоўская А.<br>Бараноўская Н. |
| 6. | **Парусны спорт** | «Лазер» 3 гонка<br>«Лазер» 4 гонка<br>«Еўропа» 3 гонка<br>«Еўропа» 4 гонка<br>«Зорны» 3 гонка<br>«Зорны» 4 гон.<br>«Тарнада» 3 гон.<br>«Тарнада» 4 гон. | Зеляноўскі А.<br>Зеляноўскі А.<br>Падабед А.<br>Падабед А.<br>Харэцкі С., Зуеў В.<br>Харэцкі С., Зуеў В.<br>Краўцоў С., Буданцаў В.<br>Краўцоў С.,Буданцаў В. |
| 7. | **Веславанне акадэміч.** | А-2 суцяш. (муж.)<br>А-4 суцяш. (муж.)<br>А-1 суцяш. (жан.) | |
| 8. | **Настольны тэніс** | парн. раз-д папярэдн. (муж.) | Самсонаў У.<br>Шчацінін Я. |
| 9. | **Барацьба грэка-рымская** | 52 кг., класіф.<br>62 кг класіф.<br>74 кг класіф.<br>90 кг класіф.<br>62 кг за бронз.<br>74 кг за бронз. | Ахмедаў І.<br>Пятрэнка І.<br>Капытоў В.<br>Сідарэнка А. |
| | | **24 ліпеня** | |
| 1. | **Бокс** | 1 тур | Астрашапкін С. (60)<br>Дычкоў С. (91)<br>Быкоўскі С. (63.5)<br>Ляховіч С. (+91)<br>Мезга В. (67) |
| 2. | **Тэніс** | адзін. раз-д (жан.) 1 тур | Зверава Н.<br>Барабаншчыкава В. |
| 3. | **Стральба кулявая** | вінт. дробнакаліб. 50 м папярэдн., фінал 3 пал. (жан.) | Шылава І.,<br>Паграбняк В. |
| 4. | **Плаванне** | 200 м брас папярэдн., (муж) | Гукаў А. |
| 5. | **Цяжкая атлетыка** | 76 кг гр. В<br>76 кг гр. А | Лабачоў Л.<br>Кечко А. |
| 6. | **Настольны тэніс** | парн. раз-д папярэдн. (муж.) | Самсонаў У.,<br>Шчацінін Я. |
| 7. | **Парусны спорт** | «Лазер» 5 гонка<br>«Лазер» 6 гонка<br>«Еўропа» 5 гон.<br>«Еўропа» 6 гон. | Зеляноўскі А.<br>Зеляноўскі А.<br>Падабед А.<br>Падабед А. |
| 8. | **Бадмінтон** | адзін. раз-д 1/32 (жан.)<br>адзіноч. раз-д 1/32 (муж.) | Чарняўская В.<br>Коршук М. |
| 9. | **Веславанне акадэміч.** | А-4 суцяш., (муж.)<br>А-8, суцяш. (жан.) | |
| 10. | **Гімнастыка спарт.** | асаб. залік. фіналы (муж.) | |
| | | **25 ліпеня** | |
| 1. | **Гімнастыка спарт.** | асаб. залік фіналы (жан.) | |
| 2. | **Стральба кулявая** | дроб. вінт. 50 м папярэдн. фінал (муж.) лежачы | Няхаеў Г.<br>Кліменка А.<br>Мартынаў С. |
| 3. | **Плаванне** | 50 м в/стыль, папярэдн., (муж.)<br>4х200 м в/стыль, папярэдн., (жан)<br>50 м в/стыль фінал В (муж.) | Каліноўскі Д.<br>Рухлевіч А.<br>Барoдзіч І.,<br>Кундзелева Т.,<br>Попчанка А.,<br>Жыдко С.,<br>Бараноўская Н. |
| 4. | **Настольны тэніс** | адзін. раз-д папярэдн. (муж.)<br>парн. раз-д папярэдн.(муж.) | Самсонаў У.<br>Самсонаў У.<br>Шчацінін Я. |
| 5. | **Парусны спорт** | «Зорны» 5 гон.<br>«Зорны» 6 гон.<br>«Тарнада» 5 гон.<br>«Тарнада» 6 гон. | Харэцкі С., Зуеў В.<br>Харэцкі С., Зуеў В.<br>Краўцоў С., Буданцаў В.<br>Краўцоў С., Буданцаў В. |
| 6. | **Велатрэк** | індыв. праслед. кваліф. (жан.) | Гаражанская Л. |
| 7. | **Веславанне акадэмічн.** | А-2 паўфінал (муж.)<br>А-1 паўфінал (жан.) | |
| 8. | **Бокс** | 67 кг, 2 тур<br>91 кг, 2 тур<br>67 кг, 2 тур<br>91 кг, 2 тур | |
| 9. | **Тэніс** | адзін. раз-д., 2 тур<br>парн. раз-д, 1 тур | Зверава Н.<br>Барабаншчыкава В. |
| | | **26 ліпеня** | |
| 1. | **Тэніс** | парн. раз-д 1 тур (жан.)<br>адзін. раз-д, 2 тур (жан.) | Зверава Н.<br>Барабаншчыкава В. |
| 2. | **Лёгкая атлетыка** | 20 км спарт. хадзьба, фінал (муж.)<br>штурханне ядра кваліф. (муж.)<br>100 м. (жан.) 1 тур<br>800 м (жан.)<br>кіданне кап'я кваліф. (жан.) | Місюля Я.<br>Хмяльніцкі М.<br>Ганчарук Д.<br>Булат І.<br>Сафроннікава Н.<br>Духнова Н.<br>Шыкаленка Н. |
| 3. | **Стральба кулявая** | 25 м спарт. піст. на дакл. папярэдн. фінал (жан.) | Сіняк Ю.<br>Мільшына Л. |
| 4. | **Барацьба дзюдо** | 48 кг (жан.) папярэдн. фінал<br>60 кг (муж.) папярэдн. фінал | Масквіна Т.<br>Багіраў Н. |
| 5. | **Плаванне** | 50 м в/стыль папярэдн. фінал (жан) | Попчанка А. |
| 6. | **Вяслярны слалам** | байдаркі (жан.) трэн. заезд | Курзіна А. |
| 7. | **Настольны тэніс** | адзін. раз-д папярэдн. (муж) | Самсонаў У. |
| 8. | **Парусны спорт** | «Зорны» 7 гон.<br>«Зорны» 8 гон.<br>«Тарнада» 7 гон.<br>«Тарнада» 8 гон. | Харэцкі С., Зуеў В.<br>Харэцкі С., Зуеў В.<br>Краўцоў С., Буданцаў В.<br>Краўцоў С., Буданцаў В. |
| 9. | **Велатрэк** | 1/4 інд. праслед. (жан.) | |
| 10. | **Веславанне акадэмічн.** | А-4 фінал В (муж.) | |
| 11. | **Цяжкая атлетыка** | 83 кг, гр. А | Гусакоў А. |
| 12. | **Бокс** | 60 кг, 2 тур | |
| | | **27 ліпеня** | |
| 1. | **Лёгкая атлетыка** | ***сямібор'е,*** (жан.)<br>100 м бар'ер<br>скачкі ў вышыню<br>штурханне ядра<br>200 м<br>трайны скачок класіф. (жан.)<br>400 м 1 тур (жан.)<br>кіданне молата класіф. (муж.)<br>кіданне кап'я фінал (жан.) | Атрошчанка А.,<br>Сазановіч Н.<br>Атрошчанка А.,<br>Сазановіч Н.<br>Атрошчанка А.,<br>Сазановіч Н.<br>Атрошчанкаў А.,<br>Сазановіч Н.<br>Гурэева Ж.<br>Козак А.<br>Алай С.,<br>Красько А.,<br>Астапковіч І. |
| 2. | **Настольны тэніс** | адзін. раз-д, папярэдн. (муж.) | Самсонаў У. |
| 3. | **Вяслярны слалам** | байдар. 1 заезд (жан.)<br>2 заезд (жан.) | Курзіна А.<br>Курзіна А. |
| 4. | **Веславанне акадэмічн.** | А-2 фінал В (муж.)<br>А-1 фінал А (жан.) | |
| 5. | **Стральба кулявая** | адвольн. вінт. 50 м 3 пал. папярэдн. фінал | Кліменка А.,<br>Мартынаў С. |
| 6. | **Цяжкая атлетыка** | 91 кг гр. В<br>91 кг гр. А | Хлуд В.<br>Беляцкі В.,<br>Базук П. |
| 7. | **Бокс** | 63,5 кг, 2 тур<br>+91 кг, 2 тур | |
| 8. | **Тэніс** | адзін. раз-д 2 тур | |

**(Заканчэнне будзе.)**

# АБ ЧЫМ ПЫТАЮЦЬ БЕЛАРУСА ЗА МЯЖОЙ?

## Нефармальная справаздача з камандзіроўкі

НЯДАЎНА ДАВЯЛОСЯ ПАБЫВАЦЬ, як кажуць, у далёкім замежжы, удзельнічаць у якасці назіральніка на пасяджэнні камітэта па сродках масавай інфармацыі Савета Еўропы ў Страсбургу. Ці не важнейшая функцыя Савета Еўропы цяпер — спрыяць інтэграцыі краін усходняй часткі кантынента з цэлай Еўропай, таму нас, прадстаўнікоў былога сацлагера, на розных пасяджэннях у камітэтах і асамблеях Савета Еўропы ці не палова ад агульнай колькасці дэлегаваных. Такім чынам, да людзей з Усходу тут прывыклі. Тым не менш прадстаўнік Беларусі выклікаў пэўную цікавасць прысутных, можа таму, што ён быў на пасяджэнні гэтага камітэта ўпершыню. З другога боку, і самому было цікава паразмаўляць з людзьмі, што прыехалі з розных краін Еўропы. Пры гэтым выявілася, што аб Беларусі ў Еўропе ведаюць надзвычай мала, тыя ўяўленні, якія ёсць, часам памылковыя. Аднак, тым не менш, тыя, з кім давялося тады паразмаўляць, выявілі даволі прыязныя і спачувальныя адносіны да нашай краіны. Гэта было вельмі прыемна ўсведамляць.

Як мне падалося, тыя пытанні, якія мне задавалі пра Беларусь, у нечым сімптаматычныя, яны раскрываюць узровень ведаў пра нашу краіну, якія, канешне, надта ўжо невялікія. Такім чынам, раскажу, аб чым мяне пыталіся за мяжой.

Найдаўжэйшая размова была ў мяне з супрацоўнікам апарату аднаго з камітэтаў Савета Еўропы, французам. Гаварылі мы каля гадзіны. Пацікавіўшыся надвор'ем у Мінску і даведаўшыся, што яно таксама дрэннае, задаў ён і нямала больш істотных пытанняў. Па-першае, адразу давялося доўга тлумачыць сітуацыю з дзяржаўным сцягам Беларусі, яго заменай на леташнім рэферэндуме. Даходліва растлумачыць, чым быў дрэнны бела-чырвона-белы сцяг, я так і не змог, відаць, падвялі мае дрэнныя веды французскай мовы і слабая арыентацыя майго суразмоўцы ў палітычных рэаліях постсавецкага свету. Новы сцяг Беларусі я акрэсліў яму як вельмі падобны на сцяг БССР, але без сярпа з молатам. Пытанне, а ці задаволены я такім сцягам, я наўмысна пакінуў без адказу. Тым не менш, і гэтага было нямала, бо мой французскі суразмоўца ўяўляў, што Беларусь ужо мае расійскі сцяг, хоць ён зусім не ведаў таго, як выглядае гэты самы расійскі трыкалор.

Я яго пераканаў не толькі ў тым, што Беларусь мае свой сцяг, але і ў тым, што ў нас ёсць сваё войска і Міністэрства замежных спраў, у чым ён таксама выказаў сумненне. Аказваецца, ён прачытаў недзе, што Беларусь у красавіку гэтага года злілася з Расіяй у адну дзяржаву.

Такім чынам, не менш пяці хвілін я тлумачыў французу з апарату Савета Еўропы, што наша супольніцтва з Расіяй, паводле выказванняў нашых кіраўнікоў, падобна на Еўрасаюз, ён успрыняў гэта досыць скептычна. У рэшце рэшт, як мне падалося, я здолеў пераканаць суразмоўцу ў тым, што наша краіна — незалежная. Тэму незалежнасці развівалі і на прыкладах масавых дэманстрацый гэтай вясной у Мінску, аб якіх мой дапытлівы суразмоўца таксама нешта чуў, але вельмі мала і няясна. Давялося патлумачыць, што гэта былі ў асноўным інтэлігенцыя і студэнты, што яны выступалі за незалежнасць. Далей паследавала ажно тры падобныя паміж сабой пытанні: чаго хочуць гэтыя студэнты і інтэлігенцыя, чаго хочуць улады, чаго жадае большасць нашага насельніцтва. Прыстойна адказаць я змог хіба толькі на апошняе пытанне: большасць насельніцтва жадае працы і хлеба. Чаго жадаюць астатнія, я добра не ведаю...

З прадстаўніцай Грэцыі размова неяк сама сабой завязалася на рэлігійныя тэмы. Як вядома Беларусь і Грэцыю яднае праваслаўная рэлігія, таму грачанка цікавілася, колькі ў нас веруючых, ці больш іх стала за апошнія гады, як складваюцца ў нас адносіны праваслаўных з каталікамі, якія рэлігіі ў нас ёсць яшчэ. Высветліўшы гэта, зразумеўшы, што тут асаблівых праблем няма, прадстаўніца Грэцыі пацікавілася, а хто ў Беларусі з'яўляецца патрыярхам. Я і патлумачыў ёй, што нягледзячы на тое, што мы сталі незалежнай дзяржавай, нашы праваслаўныя вернікі маюць ранейшыя кананічныя сувязі з маскоўскім патрыярхам і падпарадкаваны яму. Маю грэчаскую суразмоўніцу гэта вельмі абрадавала, яна нават выказала пажаданне: будзьце і далей незалежнай дзяржавай, але трымайцеся ў праваслаўі разам з Масквой, так праваслаўе ў вас і ў свеце будзе мацнейшым. Потым мы абмеркавалі рэлігійную сітуацыю у Эстоніі і Украіне, дзе маскоўскі патрыярх мае вялікія праблемы ў адрозненне ад Беларусі...

Прыязны швед сярэдніх гадоў, з якім давялося разгаварыцца, шмат расказваў пра сваю краіну, пра свой бізнес, а атрымаўшы ад мяне ў прэзент паштоўку з відамі Мінска, пацікавіўся, ці шмат быў разбураны Мінск у час вайны і ці ўсё ўдалося аднавіць. Выявілася, што з дзесятак гадоў таму мой швед часта бываў у Польшчы, і яго вельмі ўразіла, што тады нейкі там паляк перад адыходам на работу выпіваў «сто грамаў». Таму шведа і зацікавіла, а ці шмат хто гэтак робіць і ў нас. Шчыра прызнаюся, што з патрыятычных пачуццяў я крыху прыхарошыў сітуацыю...

Ірландзец і немец пыталіся ў мяне пра свабоду слова ў Беларусі. Гэта было нармальным на пасяджэнні камітэта па мас-медыя Савета Еўропы. Я ім прэзентаваў падрыхтаваную раней статыстычную інфармацыю аб сродках масавай інфармацыі ў нашай краіне, дзяржаўных і прыватных...

Акрамя таго давялося шмат размаўляць і з былымі «сябрамі па сацыялістычнаму лагеру»: палякам, славакам, балгарынам, украінцам, рускім, харваткай, азербайджанцам... З усімі імі можна было вольна размаўляць на рускай мове. Апрача прадстаўніцы Харватыі. У Харватыі, калі меркаваць па адной яе жыхарцы, з якой я тады пазнаёміўся, англійскую мову ведаюць значна лепш, чым рускую. Дарэчы, харватка гэтая пра Беларусь мела зусім цьмяныя ўяўленні, нават аднесла нашу краіну да прыбалтыйскіх, так што давялося намаляваць на аркушыку невялікую карту Еўропы і патлумачыць, што Беларусь знаходзіцца паміж Польшчай і Расіяй, Літвой і Украінай. Пра Украіну яна ведала значна больш... Размовы ж з астатнімі прадстаўнікамі былога сацлагера нагадвалі адна другую: колькі людзі зарабляюць, ці шмат беспрацоўных, якія цэны на тавары штодзённага попыту, як прайшла прыватызацыя і г. д. Пахваліцца тут мне можна было хіба толькі адносна невялікім беспрацоўем... А акрамя гэтых размоў на эканамічныя тэмы прадстаўнік Літвы чамусьці пачаў даказваць мне, што «Пагоня» — гэта толькі іх, літоўскі герб, і ён задаволены тым, што беларусы ад яго адмовіліся на леташнім рэферэндуме... Прадстаўнік Украіны яшчэ спытаў пра лёс арыштаваных у Мінску сямі ўкраінскіх грамадзян, зазначыўшы, што Беларусі зусім не выгадна трымаць іх у сябе і тым больш судзіць. Прадстаўнік МЗС Расіі, даведаўшыся, што я з Беларусі, адразу пацікавіўся, хто гэта такі Аляксандр Старыкевіч, які працуе мінскім карэспандэнтам газеты «Известия», і чаму ён так дрэнна піша пра Беларусь і яе законныя ўлады... Азербайджанец акрамя іншага спытаў, як у нас ідуць справы з адраджэннем беларускай мовы, і зазначыў, што ў іх таксама лічыцца больш прэстыжным размаўляць на рускай мове, але азербайджанскай мове ў іх, на яго думку, нічога не пагражае, таму ў Азербайджане і няма такога адчайнага змагання за родную мову, як у нас. Наконт «адчайнага змагання» ў нас, аб чым ён мае такое стойкае ўяўленне, я вырашыў нічога не гаварыць, каб не расчараваць суразмоўцу...

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ТРАДЫЦЫЙНАЕ КУПАЛЛЕ

У Гайнаўцы і Белавежы адбылося вялікае традыцыйнае свята — Купалле, якое наладзіла беларускае грамадска-культурнае таварыства. Тысячы людзей, якія сабраліся на прывакзальнай плошчы Гайнаўкі, шчырымі апладысментамі сустракалі кожны нумар з больш чым трохгадзіннага канцэрта, у якім бралі ўдзел не толькі беларускія калектывы з Польшчы, але і госці з Беларусі. Разнастайныя імпрэзы, дзесяткі вянкоў на вадзе, танцы, спевы і, вядома ж, сотні купальскіх кастроў сталіся адметнасцю гэтай цёплай летняй ночы. А ля галоўнага вогнішча ў Белавежы да самай раніцы не сціхалі беларускія песні. Разам з гаспадарамі тут добра шчыравалі госці з Беларусі — удзельнікі міжнароднай навуковай канферэнцыі з нагоды 40-годдзя кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Да ўдзельнікаў свята звярнуліся пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Бурскі, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі Пётр Краўчанка, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янка Сычэўскі і іншыя.

## ІНІЦЫЯТЫВА ЧЫНОЎНІКАЎ

Расійскае міністэрства адукацыі нядаўна зацвердзіла комплексную праграму падтрымкі агульнаадукацыйных школ краін СНД. Значныя сродкі на метадычна-матэрыяльную дапамогу будуць выдзяляцца тым навучальным установам, дзе выкладанне прадметаў вядзецца толькі на рускай мове. Расійскія чыноўнікі падрыхтавалі яшчэ адзін дакумент, які будзе накіраваны дзяржаўным органам сістэмы адукацыі краін СНД. Расійскае міністэрства прапануе прызнаць рускую мову ў межах Садружнасці ў якасці другой абавязковай для ўсіх агульнаадукацыйных школ.

## СЕВАСТОПАЛЬ АДКРЫТЫ, АЛЕ ТУДЫ ЛЕПШ НЕ ЕЗДЗІЦЬ

Трывожную інфармацыю атрымала агенцтва **«Аргументы и факты-Новости»** з Севастопаля. Гэты горад лепш аб'язджаць. І не таму, што многія лічаць яго закрытым, як ваенна-марскую базу Чарнаморскага флота. Проста медыкі не раяць. У Севастопалі лютуе эпідэмія гепатыту, складаным застаецца становішча з дыфтэрыяй, ды і іншых інфекцый хапае. Ваду і электрычнасць падключаюць па графіку, і то не заўсёды.

## ЛЕПШ ВУЧЫЦЦА НА АФІЦЭРА, ЧЫМ ВАЯВАЦЬ У ЧАЧНІ

У гэтым годзе ў Тамбове назіраецца небывалы ўздым прэстыжу прафесіі афіцэра сярод моладзі прызыўнога ўзросту. Конкурс у мясцовае ваеннае вучылішча хімічнай абароны імя Падвойскага ў некалькі разоў перакрыў паказчыкі апошніх гадоў. На пытанне, чаму яны хочуць звязаць свой лёс з арміяй, абітурыенты звычайна адказваюць: «Ды я лепш у хімабарону пайду, чым у Чачню ваяваць!»

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

З'явіліся бяздымныя цыгарэты. Такія цыгарэты пачала выпускаць у эксперыментальным парадку адна з вядучых тытунёвых кампаній «Рэйнальдс табакоу індастрыз». «Бяздымныя» цыгарэты такія ж шкодныя для курца, як і звычайныя, затое яны ўяўляюць сабой куды меншую пагрозу для іншых. Выпрабаванні новых цыгарэт тытунёвая кампанія праводзіць у Германіі.

**Асашыэйтэд Прэс.**

*Ці лёгка атрымаць дыплом урача ў Індыі? Лёгка, лічыць Амандзіп Шэкхон з горада Індора. Для гэтага патрэбна ў дасканаласці авалодаць сістэмай іголкаўколвання і паспяхова вылечыць па крайняй меры сто пацыентаў, якія цярпелі ад астмы і галаўнога болю. Увесь гэты шлях прайшоў Амандзіп Шэкхон, і дыплом прафесіянальнага ўрача яму быў ганарова ўручаны.*

*Гэтаму ўрачу ўжо... 11 гадоў. Яго імя будзе ўнесена ў індыйскую Кнігу рэкордаў.*

**ІТАР-ТАСС.**

Калі ў мінулую суботу Чэлсіі Томас з амерыканскага горада Анахайн у штаце Каліфорнія споўнілася восем гадоў, для яе зрабілі вялікае свята ў адным з філіялаў парка «Дысней-ленд». Дзяўчынку сустрэлі аркестрам, а па парку яе вадзілі Мікі Маус і качаня Дональд Дак. Але самым вялікім падарункам Чэлсіі было тое, што яна ў дзень нараджэння ўпершыню за сваё жыццё змагла ўсміхнуцца. Справа ў тым, што Чэлсія нарадзілася з рэдкім дэфектам — так званым «сіндромам Мёбіуса», які выражаецца ў поўнай нерухомасці мышцаў на твары. Хірургі аднаго з медыцынскіх цэнтраў ЗША ўзяліся выправіць гэты недахоп і справіліся з поспехам.

**Асашыэйтэд Прэс.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЗАБОЙЦА РАБІНА ПАДАЎ АПЕЛЯЦЫЮ

Вярхоўны суд Ізраіля пачаў разгляд апеляцыйнай скаргі Ігала Аміра, якога прыгаварылі напрыканцы сакавіка да пажыццёвага зняволення за забойства ізраільскага прэм'ер-міністра Іцхака Рабіна. Па меркаванню адвакатаў, існуюць важкія доказы таго, што чацвёртага лістапада мінулага года ў Рабіна страляў і забіў яго іншы чалавек. Падчас судовага працэсу па справе 26-гадовага экстрэміста гэты пункт быў адхілены таму, што паказанні відавочцаў і аматарская відэастужка пераканаўча сведчылі аб тым, што Рабіна забіў Амір.

### НЯЎЗОРАВА АБВІНАВАЧВАЮЦЬ У ШАВІНІЗМЕ

У самы бліжэйшы час у палаце па інфармацыйных спрэчках пры прэзідэнце Расіі будзе разглядацца заява ў адносінах да праграмы Аляксандра Няўзорава «Дні». У заяве гаворыцца, што перадача Няўзорава носіць шавіністычны і правакацыйны характар, а яго выказванні распальваюць нацыянальную і сацыяльную нецярпімасць у дачыненні да чачэнскага народа. У выпадку, калі палата па інфармацыйных спрэчках прызнае Няўзорава і яго праграму «Дні», а таксама кіраўніцтва ГРТ вінаватымі ў парушэнні закона аб друку, то справа будзе перададзена ў пракуратуру.

### ЛЕБЕДЗЬ НАВЕДАЕ ЧАЧНЮ

У Грозным знаходзіцца рабочая група па падрыхтоўцы візіту ў Чачню Аляксандра Лебедзя. Падрыхтоўка візіту ідзе на фоне маючай адбыцца адстаўкі з пасады кіраўніка групы войск у Чачні генерала Ціхамірава. Расійскае тэлебачанне сцвярджала, што Барыс Ельцын падпісаў адпаведны ўказ, аднак міністэрства абароны не абвергла і не пацвердзіла гэтай інфармацыі. Паводле расійскага тэлебачання, новым камандуючым прызначаны цяперашні намеснік камандуючага Паўночна-каўказскай ваеннай акругай генерал Кулікоўскі. Замена Ціхамірава хутчэй за ўсё адбудзецца ў бліжэйшыя дні. Генерал Ціхамiраў днямі заявіў, што перамовы з чачэнскай апазіцыяй не прывядуць да жаданага выніку.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ГРАНДЫЁЗНЫ СКАНДАЛ

МЕНАВІТА ТАКУЮ АЦЭНКУ атрымала ў Маскве выступленне старшыні думскага камітэта па абароне Льва Рохліна, прысвечанае карупцыі ў вышэйшых эшалонах Міністэрства абароны Расіі. Дэпутат абвінаваціў шэраг высокіх ваенных начальнікаў у крадзяжы дзяржаўных грошай. Лік ідзе на дзесяткі мільярдаў рублёў. Прычым, упершыню за ўсю гісторыю засакрэчанага монстра ім названы канкрэтныя прозвішчы «тылавых жулікаў».

Каб сказаць аб нейкіх канкрэтных дэталях даклада Л. Рохліна «Аб выніках праверкі фактаў, апублікаваных у газеце «Московский комсомолец», варта нагадаць некаторыя моманты скандальнага матэрыялу, які ўпершыню прагучаў на пленарным пасяджэнні Дзярждумы ў мінулую пятніцу.

Справа ў тым, што ў нумары МК ад 15 сакавіка г. г. расказвалася аб сакрэтным дагаворы з фірмай «Люкон», якой ваеннае ведамства перадавала недабудаваны жылы дом на 22 паверхі ў адным з раёнаў Масквы — з падземнымі гаражамі на 54 аўтамабілі, з цэлым комплексам прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання. Фірма павінна была, пачынаючы з 1993 года, перадаць за гэта ваенным 600 кватэр. Аднак да гэтай пары яны не атрымалі ні метра жылля. Больш таго, за МА чамусьці лічылася вялікая запазычанасць — больш за сто мільёнаў долараў! І фірме ўжо вырашылі выплаціць гэтую каласальную суму ...з дазволу П. Грачова. Але як аказалася, галоўным абаронцам інтарэсаў «Люкона» быў генерал арміі К. Кобец, якога ласкава прытуліў «Паша-мерседэс». Чаму Кобец заўзята абараняў «Люкон»? Проста: яго сын быў саўладальнікам фірмы, дзейнасць якой афіцыйна названа злачыннай.

Генерал Рохлін меў рэальныя падставы заявіць, што доўгі час кіраўніцтву Мінабароны можна было рабіць усё, не баючыся крымінальнай адказнасці за шырокімі плячыма «лепшага міністра абароны ўсіх часоў». Дарэчы, гэтая пахвала прагучала ў адным з выступленняў Ельцына у Санкт-Пецярбургу праз некалькі дзён пасля выступлення маскоўскай газеты. Застаецца толькі здзіўляцца, як тая страшная бочка з порахам, на якой сядзеў даверлівы расійскі прэзідэнт, не ўзарвалася раней, скажам, напярэдадні другога тура галасавання? Відаць, тады гаспадаром Крамля стаў бы Г. Зюганаў. Менавіта такой апошняй кроплі не хапала Ельцыну для канчатковага пройгрышу саперніку.

Факты масавай карупцыі ў расійскай арміі ашаламілі не толькі расіян, але і самога прэзідэнта. Як сказаў у заключнай частцы свайго даклада Леў Рохлін, «у Мінабароне маюць месца велізарныя злоўжыванні не толькі з выдзяленнем кватэр, але і з продажам ваеннай маёмасці». Дастаткова сказаць, што тэхнікай і ўзбраеннямі, якія знаходзіліся ў былых замежных групах войск, можна забяспечыць нават самую вялікую вайну з усёй Еўропай. Цяпер жа Расіі не хапае матэрыяльных сродкаў нават на лакальны канфлікт у Чачні...

Чаму такі працяглы час не прызначаны чалавек на пасаду міністра абароны? Адказ ляжыць на паверхні: у большасці кандыдатаў на пасаду міністра, кандыдатуры якіх абмяркоўваліся папярэдне, цягнецца чорная нітачка карупцыі.

Пасля адстаўкі Грачова Мінабароны страціла надзейнае прыкрыццё прэзідэнта. Таму неўзабаве адбылося непазбежнае выкрыццё зладзеяў з верхатуры на чале з міністрам. Апрача К. Кобеца, Ю. Радзіонава, А. Какошына, якія непасрэдна спрыялі махінацыям з будаўніцтвам жылля, Рохлін абвінаваціў у карупцыі і былога начальніка Галоўнага ўпраўлення ваеннага бюджэту і фінасавання, самага блізкага сябра П. Грачова — генерал-палкоўніка Васіля Вараб'ёва. Матэрыяламі праверкі ўстаноўлена, што толькі дзве фінансавыя аперацыі, якія праведзены пад камандаваннем генерала Вараб'ёва з удзелам нямецкага і латвійскага банкаў, прынеслі ваеннаму бюджэту ўрон у суме 27,6 млн. долараў. Замешаны ў крадзяжы дзяржаўных сродкаў генералы Харчанка, Жарабцоў, Чуранаў. А многія ж з іх разглядаліся прэзідэнтам як кандыдаты на замену П. Грачова...

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

